PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 3667714

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 42 (1849) 20 КАСТРЫЧНІКА 1991 Г. ЦАНА 1000 ЗЛ.

## НОВАЕ Ў НАРВЕ

Калі ісці ад цэнтра па вуліцы Міцкевіча ў бок Макаўкі, мінем школу і два жалезныя крыжы перад ёю — сімвал новага грамадска-палітычнага парадку. Школа таксама новая, але пабудавана яшчэ за парадку старога, хаця ён ужо паўсюдна развальваўся.

Ад школы пачынаецца новы цэнтр Нарвы. Вырас тут вялікі пасёлак домікаў-асабнякоў, у мінулым годзе былі пабудаваны трохпавярховыя блокі на 60 кватэр. Тут і прадшколле, і пастарунак паліцыі, і, ад нядаўна, гміна і пошта.

**Гаворыць войт Нараўскай гміны Ян Тапалянскі:**

„У старым цэнтры асяродак здароўя, касцёл, царква і рэстаран, які ўжо ледзь дыхае. Штораз больш устаноў пераходзіць сюды, на новае месца. Тут, фактычна, жыве ўжо большасць нараўлян.

Гмінная ўправа перабралася ў новы будынак зусім нядаўна, пачалі мы тут працаваць 8 верасня. Хаця пакінулі мы стары драўляны будынак, вялікай радасці ад змены не было. Тое, што мы цяпер, разам з поштай, у новых прыгожых памяшканнях, звязана з ліквідацыяй ПОМа (Дзяржаўная машынная база), а ад яго ж пачалася пабудова гэтага пасёлка.




*У гэтым будынку цяпер гмінная ўправа і пошта.*

Чым быў нараўскі ПОМ, ведаюць людзі з цэлае аколіцы. Абслугоўваў ён не толькі жыхароў нашай гміны, але і суседніх. Рамантаваў трактары, іншыя сельскагаспадарчыя машыны, грузавікі. Вёў таксама прадукцыю, між іншым, буды на прычэпы для грузавікоў. Але асноўнай сферай дзейнасці ПОМ а былі рамонты.

ПОМ быў раней дзяржаўным прадпрыемствам; калі паяўлялася нейкая патрэба, не было ніякіх цяжкасцяў з дафінансаваннем з дзяржаўнага бюджэту. Пачалася рэформа, прадпрыемствы перайшлі на самаразлік. У гэты час збяднеў селянін і не пайшоў з паслугамі ў ПОМ. Ён кліча механіка да сябе на панадворак і яму гэта абыходзіцца нашмат танней — плаціць пару грошай, ставіць паўлітра і ўсё. Механік таксама задаволены, бо ад сваіх заробкаў не плаціць ніякіх

( Працяг на стар. 6 )

*****************************************************************

## СУДЗЯЦЬ ЗА ГРАБАРКУ

### —ЗАКАНЧЭННЕ

3 кастрычніка 1991 года ў Ваяводскім судзе ў Беластоку завяршылася справа Яна С., абвінавачанага Раённым пракурорам у Бельску-Падляшскім у падпаленні праваслаўнай царквы Праабражэння Гасподняга на Святой Гары Грабарка. Суд прызнаў Яна С. вінаватым падпалення 12 ліпеня 1990 года будынка царквы на Грабарцы ды вінаватым пакражаў з узломамі, учыненых у днях 12-14 ліпеня 1990 года на абшары гміны Нурэц-станцыя. Ян С. засуджаны агулам на 12 гадоў турмы. Дадаткова суд пазбавіў яго публічных правоў на перыяд 5 гадоў. Прысуд гэты неправамоцны.

Перад тым, як суд аб'явіў сваё рашэнне, Ян С. адчытаў заяву і апошняе сваё слова. „Я ніколі, — між іншым, чытаў ён самавітым голасам, — нічога так глыбока не перажыў, як тое, што цяпер даводзіцца мне выцярпець. Ніколі не пагаджуся з тым, што сталася. У арышце, з дапамогаю лекаў, якія я атрымліваў у гарбаце, паліцыя выцягнула з мяне ўсё, што патрабавала ў справе царквы. Я зусім не здзіўляюся, што справа ўзяла якраз такі ход, як гэта запісана ў яе дакументах — такімі лекамі можна прыкончыць слана, а што казаць пра чалавека. Калі Высокі Суд вырашыць пра маю віну, — цягнуў Ян С., — то хачу толькі таго, каб вынесены быў мне справядлівы прысуд, па-хрысціянску. Калі былі сказаны мною ў гэтай зале нейкія словы, якія абразілі Высокі Суд, дык прашу за іх прабачэння. Прашу таксама прабачэння за свае паводзіны ў часе першых двух пасяджэнняў 12 і 13 верасня".

Асэнсаванне вынесенага прысуду было абшырнае і дэталёвае. Вялікі матэрыял, зграмаджаны абвінавачаннем за перыяд ад 12 ліпеня 1990 (пажар царквы) да 12 верасня 1991 (пачатак працэсу), пацвярджае віну Яна С. Пацвярджаюць гэту віну і шматлікія доследы, праведзеныя як на месцы пажару, так і па-за ім. Для прыкладу, у часе рэканструкцыі здарэнняў, што адбыліся на Грабарцы ноччу з 12 на 13 ліпеня 1990 года, Ян С. паказаў шмат такіх дэталяў, на якія суд увогуле ніколі не звярнуў бы ўвагі, калі б абвінавачаны не прызнаўся да віны і не супрацоўнічаў з паліцыяй.



*Пасля прысуду.*

Было б памылкай, гаварыў старшыня судовага складу Збігнеў Панэрт, разглядаючы гэту справу, спасылацца ўсяго на тыя два мільярды злотых — матэрыяльныя страты, узнікшыя ў выніку пажару. Вядома, што ў арбіце чалавечай экзістэнцыі самым важным з'яўляецца жыццё ды

( Працяг на стар. 2 )

## ПРАБУДЖЭННЕ

**Размова з АЛЯКСЕЕМ МІЛЕРАМ, доктарам гістарычных навук, супрацоўнікам Інстытута славяназнаўства і балканістыкі Акадэміі навук СССР.**

*— Вы гісторык і знаўца Цэнтральнай Еўропы. Скажыце, калі ласка, ці перамены ў СССР можна параўноўваць з тым, што дзеялася ў краінах Цэнтральнай Еўропы ў апошнія гады? Ці тое, што сталася ў Расіі, абазначае ўжо канец гэтай сістэмы?*

— Думаю, што наступіла паражэнне гэтай сістэмы ўлады ў Расіі. Тут камуністычная партыя прайграла ўжо канчаткова. Але ў рэспубліках, у Сярэдняй Азіі, Азербайджане, на Беларусі, на Украіне гэтая сістэма яшчэ трымаецца. Наменклатура ў рэспубліках не падтрымала — выразным спосабам — путч, таму што ён наносіў удар па іх інтарэсах. Адначасна пярэчыць іх інтарэсам і тое, што зараз дзеецца ў Расіі. Перад намі вельмі асаблівы перыяд. Адзін з передавых дэмакратычных дзеячоў, мэр Ленінграда Сабчак, прамаўляючы ў парламенце, сказаў, што рэспублікі абвяшчаюць сваю поўную незалежнасць і такім спосабам робяць спробы ізалявацца ад Расіі, нярэдка з мэтай захаваць там старую сістэму. У гэтым ёсць пэўная рацыя. Але ў яго сцвярджэнні, што спярша трэба змяніць сістэму ва ўсёй краіне, а потым рашаць, якія рэспублікі адлучацца ад Расіі, бачу праяву расейскага імперыялізму.

*— Ці думаеце, што Расію можна вылечыць ад імперыялізму? Некаторыя з маіх знаёмых дэмакратаў, дэпутаты ў Вярхоўны Савет РСФСР, публічна выказваюцца за выхадам рэспублік з Саюза, але прыватна, паўжартам, мараць аб вяртанні Аляскі да Расіі.*

— Мяркую, што Расія павінна вылечыцца з такога тыпу імперыялізму, які з'яўляецца дзевятнаццацівечным анахранізмам. Імперыялізм, якім можна карыстацца — гэта эканамічны імперыялізм. Магу ўявіць сабе Расію як эканамічна наймацнейшага партнёра ў нейкай канфігурацыі, якая з гэтай прычыны ставіць часам варункі. Расія багатая залежамі нафты і газу і можа дыктаваць варункі лагодным, трывалым і бесканфліктным спосабам, які не будзе ўзбуджаць нянавісць. Існуе ж амерыканскі эканамічны імперыялізм, з якім можна змірыцца.

*— Вернемся ў Цэнтральную Еўропу.*

— Нельга параўноўваць сістэмным спосабам гісторыю краін Цэнтральнай Еўропы з Савецкім Саюзам. Розніца між сарака і сямідзесяццю гадамі панавання гэтай сістэмы складае прорву. А да таго ж краіны

( Працяг на стар. 8 )




— 58 —

Галоўны цяжар, звязаны з пабудовай музея, узялі на сябе грамадскі камітэт, Беларускае грамадска-культурнае таварыства і беларускае насельніцтва ў Польшчы.

Дарэчы, здараюцца выпадкі, калі грошы ў фонд пабудовы музея ўносяць і карэнныя палякі, і зразумела, што гэта не можа не выклікаць нашай глыбокай удзячнасці. Варта сказаць, што на ўсходняй Беласточчыне збіралі і збіраюць экспанаты многія польскія музеі. Між іншым, Беластоцкі музей, Гайнаўскі музей, Варшаўскі музей, Пушчанскі музей у Белавежы. На жаль, ніводзін з гэтых музеяў, атрымаўшы экспанат у беларускай вёсцы і паставіўшы яго ў Варшаве, Торуні, Беластоку ці Белавежы, не інфармуе наведвальнікаў аб тым, што мае ён беларускі характар, і не падае арыгінальнай беларускай назвы. І гэта ёсць свайго роду злачынства. Як чалавек мае сваё імя і прозвішча і па сутнасці ніхто чужы не мае права іх мяняць, так і этнаграфічны экспанат мае свой назоў і ніхто чужы не мае права яго перахрышчваць. На жаль, такое перахрышчванне сталася нормай у польскіх музеях, якія, як бы там ні было, маюць характар навуковых установ.

Не выясненай з'яўляецца справа экспанатаў з Беларускага музея, які існаваў у Белавежы. Як вядома, экспанаты з гэтага музея былі вывезены ў Цехановец з мэтай іх тэхнічнага забеспячэння і кансервацыі і застаюцца там ужо болей чым дваццаць гадоў. Экспанаты гэтыя былі дадзены беларусамі Беларускаму музею, а не Цеханоўскаму і таму мусяць вярнуцца ў Беларускі музей у Гайнаўцы. Будзем у гэтай справе рабіць захады ў Міністэрстве культуры і мастацтва і спадзяемся, што беларускія экспанаты вернуцца да праўнага ўладальніка, якім з'яўляецца выключна наш Беларускі музей.

Трэба сказаць, што якраз зараз, калі заканчваецца працэс пабудовы Беларускага музея, ізноў становіцца актуальнай праблема збору этнаграфічных экспанатаў. Вядома, што іх сёння намнога меней, чым было ў мінулым. Многія старыя будынкі, у якіх перад усім захоўваліся экспанаты, знішчаны. Аднак, многае засталося някранутым. Не ў адной вёсцы і не ў адной гаспадарцы захоўваюцца прадметы, рэчы, прылады, якія прадстаўляюць старую этнічную беларускую культуру. Аб іх існаванні часта не ведаюць самі ўладальнікі. Наша задача заключаецца ў тым, каб дайсці да кожнага селяніна, выясніць яму, у чым справа, і разам з ім пашукаць у яго будынках тое, што нас цікавіць. А цікавіць нас усё, што звязана са старым рамяством, са старой гаспадаркай, са старым спосабам апрацоўкі зямлі, са старой вопраткай, абуткам, старым мастацтвам. Цікавіць нас не толькі ўсё звязанае з сялянскім побытам, але таксама многае з таго, што звязана з рэлігійным жыццём. Хацелі б мы аддаць прынамсі адну з музейных залаў пад сакральнае мастацтва. Як вядома, у паасобных хатах, а тым болей у цэрквах знаходзіцца вялікая колькасць прадметаў, якія звязаны з рэлігійным жыццём. Зразумела, што прадметы гэтыя могуць апынуцца ў Беларускім музеі толькі тады, калі іх дабравольна перададуць або прададуць паасобныя жыхары або духоўныя. Ніякія ашуканствы ў гэтай далікатнай справе не могуць прымяняцца. Што як што, але Беларускі музей мусіць моцна стаяць на грунце добрасумленнасці і высакароднасці.

## АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

**Алесь Барскі**

******************************************************************************




### ПОЛЬСКА-БЕЛАРУСКАЯ ДЭКЛАРАЦЫЯ

10 кастрычніка ў Варшаве прэм'ер-міністры Польшчы — **Ян Кшыштоф Бялецкі** і Беларусі — **Вячаслаў Кебіч** падпісалі дэкларацыю аб добрых адносінах. Гэта першы такога тыпу дакумент, падпісаны незалежнай Беларуссю з іншай краінай. Сцвярджае ён, што адносіны паміж абедзвюма краінамі будуць абапірацца на прынцыпе раўнапраўнасці, спасылаецца на асаблівую блізкасць абодвух народаў і падкрэслівае, што кантакты між імі маюць значэнне для супрацоўніцтва ў нашым рэгіёне. Польска-беларуская дэкларацыя пацвярджае цяперашнюю граніцу між Польшчай і Беларуссю і змяшчае каталог вартасцей, якія адносяцца да нацыянальных меншасцей. Знаходзяцца ў ім гарантыі забеспячэння ўсялякіх правоў і варункаў развіцця тоеснасці і традыцыі палякаў на Беларусі і беларусаў у Польшчы.

У Радзе Міністраў быў заключаны ў той дзень дагавор аб гаспадарчым супрацоўніцтве і гандлі, які падпісалі міністры па гаспадарчых кантактах з заграніцай — **Дар'юш Ледвароўскі і Уладзімір Радкевіч**. Польшча зараз з'яўляецца найважнейшым гаспадарчым партнёрам Беларусі. Беларускі бок хоча купляць харчовыя прадукты, легкавыя машыны, медыцынскую апаратуру, вопратку і вырабы хімічнай прамысловасці, а ўзамен прапануе халадзільнікі, тэлевізары, трактары і мінеральныя ўгнаенні.

Пад час сустрэчы Вячаслава Кебіча з міністрам замежных спраў **Кшыштофам Скубішэўскім** узгоднена, што неўзабаве будзе адкрыта Генеральнае консульства Беларусі ў Варшаве. Шэф польскай дыпламатыі сказаў таксама, што ў будучым бачыць магчымасць адкрыць консульствы: польскае ў Гародні і беларускае ў Беластоку.

Беларускі прэм'ер нанёс візіт маршалкам Сейма — **Мікалаю Казакевічу** і Сената — **Анджэю Стэльмахоўскаму** і выказаў польскаму парламенту падзяку за падтрымку незалежніцкіх памкненняў беларусаў.

— Граніца між намі, — сказаў журналістам Вячаслаў Кебіч, — так як і сэрцы, павінна быць адкрыта. Мы павінны магчы гандляваць і інвеставаць у сябе капіталы. Беларусь адкрытая на такія ініцыятывы. Мы павінны развіваць нашае культурнае супрацоўніцтва. Хочам пашырыць навучанне польскай мовы на Беларусі. Патрэбны нам выкладчыкі ад вас. Хацеў бы я таксама дабавіць, што гэта можа здарылася ўпершыню ў гісторыі, але абодва прэм'ер-міністры былі між сабою настолькі шчырыя, скажу жартаўліва, што дзяліліся сакрэтамі. Мы палічылі неабходным стварыць сумесную камісію, якая занялася б падрыхтоўкай польска-беларускага трактату, які павінен быць падпісаны яшчэ ў гэтым годзе. Я хацеў бы таксама паведаміць, што будуць адкрыты два дадатковыя гранічныя пункты між намі, турыстычна-дарожныя пункты, якімі будуць карыстацца толькі грамадзяне Польшчы і Беларусі.

11 кастрычніка прэм'ер-міністр Беларусі Вячаслаў Кебіч сустрэўся ў Бельведэры з прэзідэнтам Рэчыпаспалітай Польскай **Лехам Валэнсам**.

## ЗАЯВА

Беларускі выбарчы камітэт зблакаваў краёвы спіс сваіх кандыдатаў з краёвым спісам Выбарчага камітэта нямецкай меншасці. Беларускі выбарчы камітэт і Выбарчы камітэт нямецкай меншасці, як адзіныя меншасныя камітэты ў маштабе краіны, ідуць да выбараў самастойна. Зблакаванне краёвых спісаў кандыдатаў абодвух камітэтаў павялічвае шанцы беларускіх кандыдатаў на атрыманне мандатаў у парламенце.

**БЕЛАРУСКІ ВЫБАРЧЫ КАМІТЭТ**
**Беласток, 8.10.1991**

## ПАДЗЯКА

Беларускі выбарчы камітэт з сядзібай у Беластоку дзякуе ўсім жыхарам Беласточчыны, якія сваімі подпісамі падтрымалі яго кандыдатаў. Дзякуючы прыхільнасці насельніцтва Беласточчыны да Беларускага выбарчага камітэта ды заангажаванню людзей з-па-за камітэта ў акцыю збірання подпісаў, Беларускаму выбарчаму камітэту ўдалося зарэгістраваць спісы сваіх кандыдатаў не толькі на Беласточчыне, але і ў шасці выбарчых акругах Польшчы. Намаганне гэтае не змарнуецца — галасы выбаршчыкаў на спісы кандыдатаў Беларускага выбарчага камітэта ва ўсёй краіне будуць мець значэнне ў змаганні за мандаты для беларусаў у парламенце.

**Галасуйце на Беларускі выбарчы камітэт — нумар спісу 48!**

**БЕЛАРУСКІ ВЫБАРЧЫ КАМІТЭТ**
**Беласток, 8.10.1991**

## СУДЗЯЦЬ ЗА ГРАБАРКУ

**( Працяг са стар. 1 )**

ягоная бяспека. Аднак жа, чалавек на сваім шляху ставіць сімвалы духоўнай экзістэнцыі. У гэтым канкрэтным выпадку засуджаны Ян С. паважыўся на сімвал праваслаўнай культуры, а кажучы больш агульна, на сімвал хрысціянскай культуры. У выніку гэтага дзеяння знішчана частка нашай агульначалавечай спадчыны.

Пару слоў пра засуджанага. Ян С. паходзіць з беднай шматдзетнай сям'і. У дзяцінстве ўжо быў у „папраўчаку" і ад тае пары ягонае жыццё ў большай альбо меншай ступені звязана з вязніцай. Цяпер яму 33 гады. Быў агулам суджаны 5 разоў — апошняя яго кара: 8 гадоў. Пяць гадоў з гэтых васьмі — адсядзеў, а ў ліпені 1990 года пайшоў на пропуск... Лекары, якія даследавалі стан здароўя Яна С. перад працэсам, не сцвердзілі ў яго ніякіх прыкмет псіхічнай ці якой іншай хваробы. Ноччу 12 ліпеня 1990 Ян С. поўнасцю за сябе адказваў, быў у стане адрозніць дабро ад зла.

У гэтым годзе, на Ілью, ездзіў я на Грабарку разглянуцца ў тым, як ідзе адбудова царквы. Пасля багаслужбы ў прыманастырскай каплічцы людзі гуртаваліся вакол новага будынка. „Паўна, шмат заплацілі за тое, што падпаліў", „пасудзяць, пасудзяць, прыціхне і выпусцяць", — чуў я тады ад людзей. Справядлівасць — яна ўжо ёсць і то хутчэй, чым мне асабіста раней думалася. Што датычыцца таго, ці Яну С. „шмат заплацілі", дык выглядае на тое, што не меў ён аніякай карысці — пацвярджае гэта ход самога працэсу, а ў судзе прасядзеў я не адну гадзіну. Чым, у такім выпадку, ноччу 12 ліпеня 1990 года кіраваўся засуджаны Ян С., падкладаючы пад царкву на Грабарцы агонь? Наўрад, ці хто-колечы, акрамя засуджанага, у змозе на гэта адказаць...

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

**Фота аўтара**




* **Якім будзе культурна-асветны год 1991-1992.**
* **Кулісы радыё „Свабода".**
* **Украінцы на Падляшшы.**
* **Маляванне ў Белавежы.**
* **„Прысутнасць".**

# НАШЫ КАНДЫДАТЫ

**ВІКТАР СТАХВЮК — нарадзіўся ў 1948 годзе ў Трасцяніцы. Закончыў беларускі ліцэй у Бельску-Падляшскім, тэлеаўтаматыку ў Беластоку, беларускую і рускую філалогію ў Варшаве ды двухгадовыя студыі ў Маскве і ў Польскай акадэміі навук. Адзін з заснавальнікаў Праваслаўнага брацтва імя Кірылы і Мяфодзія. Зараз сакратар Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ды каардынатар Краёвай управы Беларускага дэмакратычнага аб'яднання. Палітык.**



## СВАІМ ГОЛАСАМ ПРА СВАЕ СПРАВЫ

**„Ніва":** — *Чаму беларускаму палітычнаму руху ў Польшчы неабходны свой прадстаўнік у парламенце?*

**Віктар Стахвюк:** — Думаю, што паняцце „беларускі палітычны рух" трэба было б у гэтым пытанні пашырыць на беларусаў у Польшчы, а сама менш на беларусаў Беласточчыны. Беларускі палітычны рух не выступае толькі за інтарэсы сваіх дзеячоў, а хутчэй за ўсё змагаецца за нацыянальны інтарэс беларускай меншасці ў Польшчы. Наш прадстаўнік у парламенце патрэбны дзеля таго, каб не выступала такая з'ява, што пра нашы справы гавораць у Сейме так званыя адвакаты, якія прыкідваюцца прыхільнікамі беларускай справы. Для гэтых адвакатаў справы нашай этнікі, культуры, веравызнання, эканомікі, школьніцтва будуць заўсёды маргінальнымі справамі — ім трэба толькі ўтрымаць у сваіх руках як мага большую частку нашага электарату. Гэта адна прычына. Мы, беларусы, жывем у стане інфармацыйнай блакады — да нас даходзіць уся інфармацыя пра польскае грамадства, але ў другі бок нічога не выходзіць. Інакш кажучы, жывем у Польшчы ў закансціраванасці. Прадстаўнік у парламенце зможа гэта змяніць — пашырыць інфармацыю пра беларускую нацыянальную меншасць на ўсю Польшчу. У Польшчу напльвае шмат прашэнняў ад палякаў, якія пражываюць у азіяцкіх рэспубліках Савецкага Саюза — яны ахвотна пераехалі б у Польшчу. Палякам гэтым паказваюць Усходнюю Сцяну як месца для пасялення. Трэба гэтай канцэпцыі супрацьставіцца, тым больш, што мы самі ў стане загаспадарыць сваю зямлю. Дзеля чаго яшчэ патрэбны нам прадстаўнік у парламенце — а хто будзе адстойваць у гэтым жа парламенце правы беларускай культуры ў Польшчы?

— *За галасы беларускага электарату на Беласточчыне будуць змагацца два камітэты. Чаму, па-Вашаму, не магло дайсці да пагаднення паміж Беларускім выбарчым камітэтам і Выбарчым камітэтам праваслаўных?*

— За галасы беларускага электарату будзе змагацца каля трыццаці камітэтаў...

— *Я меў на думцы толькі тыя два, у якіх найбольшыя шанцы...*

— Сёння надышоў ужо такі час, калі трэба вызначыць, хто ты такі. Па-мойму, нельга ўжо хавацца за назвамі, якія зашыфроўваюць нацыянальную прыналежнасць — не можам бясконца быць тутэйшымі. Польскае грамадства за апошнія два гады даведалася ўжо, што тут, на Беласточчыне, жывуць беларусы, частка таго народу, які насяляе суседнюю краіну. З такой пазіцыі выступае Беларускі выбарчы камітэт — выступаем за адраджэнне нашай гаспадаркі ў рэгіёне, за адраджэнне нашай нацыянальнай культуры ды за ўмацаванне традыцыі праваслаўя на гэтых землях. Размовы наконт стварэння супольнага камітэта, зразумела, былі, але не дайшло да пагаднення, каб гэты камітэт выступіў як беларускі, а значыць і не знайшлося месца для беларусаў, якія сярод праваслаўных на Беласточчыне складаюць сама менш 90 працэнтаў. Я, як кандыдат ад Беларускага выбарчага камітэта, супраць таго, каб у выбарчай кампаніі выкарыстоўваць элемент рэлігіі. Праваслаўе — гэта наша духоўнасць, нешта нам вельмі дарагое і, па-мойму, нельга гэтага выкарыстоўваць у палітычнай гульні, дзе, не сакрэт, неаднойчы ліюцца намыі. Я вельмі здзіўляюся, што Царква, якая праз усю сваю гісторыю захоўвала палітычную нейтральнасць, цяпер дазваляе выкарыстоўваць увесь свой аўтарытэт нейкай палітычнай групоўцы.

— *Што Вы як кандыдат прапануеце сваім выбаршчыкам?*

— Магу запрапанаваць адно — знайду ў сабе настолькі сілы, каб любую справу, будзе яна горкай ці салодкай, паставіць на форуме Сейма. Дзеля гэтага грамадскай адвагі ў мяне хопіць. Гарантую таксама тое, што ўмею слухаць ды буду прыслухоўвацца ўсім скаргам ад насельніцтва, з якіх узнікнуць пастулаты, якія буду ставіць у Сейме ясна і адкрыта, таксама, як я ставіў справу пратэсту супраць польскага асадніцтва на Беласточчыне ў соймавых камісіях, калі мяне туды запрасілі.

**ВАСІЛЬ ЛЯШЧЫНСКІ — нарадзіўся 14.01.1947 г. у вёсцы Ваські, гміна Нарва, у настаўніцкай сям'і. Ад 1951 г. жыхар Орлі, дзе па сённяшні дзень жыве яго бацька. Выпускнік Педагагічнага ліцэя ў Бельску-Падляшскім, Настаўніцкай студыі ў Элку і Гданьскага універсітэта. Працаваў настаўнікам, а затым дырэктарам Пачатковай школы ў Моры, гміна Чыжы. Ад лютага 1975 года з'яўляецца дырэктарам Пачатковай школы н-р 3 у Бельску-Падляшскім. Старшыня Камісіі па справах рэформы беларускага школьніцтва ў Польшчы. Лідэр беларускага палітычнага руху ў Бельску.**



## ХТО ПЛАНУЕ НА ГОД — ТОЙ СЕЕ РЫС, ХТО ПЛАНУЕ НА СТО ГОД — ТОЙ ВУЧЫЦЦА.

**( Кітайская мудрасць)**

**„Ніва":** — *Вы ўжо 16 гадоў працуеце дырэктарам найбольшай у Польшчы школы з беларускай мовай навучання. Прыйшлі на гэту пасаду ў вельмі маладым узросце. Як гэта здарылася?*

**Васіль Ляшчынскі:** — Я лічу сябе перш-наперш настаўнікам, а не дырэктарам. Да гэтай прафесіі меў я дачыненне, можна сказаць, ужо ад калыскі. У мяне бацькі былі настаўнікамі. Колькі помню, у хаце заўсёды гаварылі пра школу, ляжалі кучы сшыткаў. Калі я крыху падрос, пачаў нават данамагаць бацькам правяраць іх. Бацькі вучылі ў розных школах, даволі часта пераязджалі з адмае мясцовасці ў другую. Я нарадзіўся ў Васьках, выхоўваўся ў Тыневічах, Дубічах-Царкоўных, Грабаўцы, Рудутах і, на канец, у Орлі. Відаць, мне гэта, крыху цыганскае, жыццё спадабалася, бо пайшоў вучыцца ў Педагагічны ліцэй у Бельску. Закончыў я клас з беларускай мовай навучання, потым двухгадовую Настаўніцкую студыю ў Элку і пайшоў вучыць на вёску, у Мора. Было гэта ў 1968 г. У Моры правучыў я год часу і здаў экзамены на педагагічнае аддзяленне Гданьскага універсітэта (тады, праўда, яшчэ Вышэйшая педагагічная школа; універсітэт - ад 1970 г.). Вучобу закончыў у 1973 годзе і вярнуўся ў Мора, але ўжо на пасаду дырэктара. На вёсцы тады яшчэ было многа моладзі, пачаў я з ёю гуляць у спорт, потым усё больш сур'ёзна, і мае вучні пачалі займаць у спаборніцтвах першыя месцы не толькі ў ваяводстве, але і ў цэлым паўночна-ўсходнім рэгіёне. На мяне — дырэктара вясковай школы, якая мае такія вынікі ў спорце — звярнулі ўвагу асветныя ўлады. У лютым 1975 г. стаў я дырэктарам Пачатковай школы н-р 3 у Бельску. Гэта было, фактычна, павышэнне.

— *Абавязкі дырэктара ў апошні час Вы спалучаеце з кіраваннем працамі Камісіі па справах рэформы беларускага школьніцтва ў Польшчы. Скажыце некалькі слоў пра гэту камісію!*

— Узнікла яна ў ліпені 1990 г. па ініцыятыве віцэ-міністра адукацыі Анджэя Януўскага, які выказаў думку, што беларусы самі павінны выпрацаваць форму беларускага школьніцтва ў Польшчы. Усе нашы канцэпцыі, зразумела, мусяць атрымаць адабрэнне міністэрства, але маем магчымасць запоўніць змястам пэўныя рамкі. Людзей у камісію надшукалі мы супольна з дырэктарам ліцэя Аляксеем Карнюком. Прэзідыум — гэта 7 чалавек, а ў цэлай

( Працяг на стар. 8 )

**ВАЛЯНЦІН СЕЛЬВЯСЮК — нарадзіўся ў 1965 г. у вёсцы Махнатае (Гайнаўская гміна). Беларус, праваслаўны. Закончыў беларускі ліцэй у Гайнаўцы. Вывучаў гісторыю мастацтва ў Варшаўскім універсітэце, а затым у Rutgers University і Princeton University (ЗША). Актыўны ўдзельнік беларускага студэнцкага руху, рэдактар часопіса „Сустрэчы". Цяпер саўладальнік суполкі „Амега", якая займаецца гандлем сельскагаспадарчымі прадуктамі з Усходам.**



## НЕ КАРЫСТАЦЦА ЧУЖОЙ ЛАСКАЙ

**„Ніва":** — *Вы цяпер займаецеся бізнесам. Раней вывучалі гісторыю мастацтва, жылі пару гадоў у Злучаных Штатах. Што кіруе Вашым выбарам жыццёвай дарогі?*

**Валянцін Сельвясюк:** — Хачу быць актыўным стваральнікам рэчаіснасці, якая мяне акружае.

— *Рэчаіснасць у Польшчы радыкальна змянілася за апошнія гады. Ці ў сувязі з тым з'явіліся ў нас новыя магчымасці самарэалізацыі? Што змянілася ў Вашым падыходзе да жыцця?*

— Думаю, што цяпер можна значна лепш рэалізаваць актыўную мадэль жыцця. У свой час стаць навукоўцам, пісьменнікам, незалежным інтэлектуалістам было формай будавання самастойнасці поглядаў у дазволеных рамках, забяспячэннем свабоды думкі. Але была гэта пасіўная форма існавання, чалавек адмяжоўваўся ад праблем, на якія і так не меў уплыву. Канчалася ўсё няўхільнай эміграцыяй, вонкавай або ўнутранай.

— *Вы, фактычна, таксама апынуліся на эміграцыі...*

— У пэўным сэнсе так, хаця паехаў я ў Амерыку фармальна дзеля вучобы. Мушу сказаць, што вельмі добра сябе там адчуваў, краіна мне поўнасцю спадабалася. Не таму, што яна багатая, а таму, што пабачыў там сапраўднае жыццё. Кожны чалавек індывідуальна можа фармаваць сваю рэчаіснасць, яго не абмяжоўваюць у магчымасцях. Не ствараюць ілюзіі, што нехта клапоціцца пра твой лёс, думае, каб табе было лепш.

— *Чаму Вы тады вярнуліся?*

— Таму, што быў там толькі назіральнікам. Змянілася становішча ў краіне і я вырашыў, што тое, чаму навучыўся і зразумеў там, магу рэалізаваць тут.

— *А як яно сапраўды?*

— У нас людзі вызваліліся з-пад аднае ідэалогіі і больш у сваім жыцці не хочуць бачыць ніякай. Я лічу, што гэта не зусім так. Я прапаную ідэалогію вольнага капіталізму.

— *Як гэта разумець?*

— Як форму грамадскага жыцця, якое

( Працяг на стар. 8 )

## ШТО І ЧАМУ?

Пачынае сваю статутовую дзейнасць Гаспадарчы гурт Беларускага дэмакратычнага аб'яднання. Адна з першых яго ініцыятываў гэта наладжанне сімпозіума для абмеркавання пытання гаспадарчага супрацоўніцтва беластоцкіх фірмаў з Беларускай Рэспублікай. Урадавыя колы беларускага боку поўнасцю акцэнтавалі гэтую ідэю. Ёсць таксама дэкларацыі дапамогі ў яго мерытарычнай падрыхтоўцы. Галоўная мэта сустрэчы — наладзіць зносіны гаспадарчых колаў у Беларусі і польскіх бізнесменаў.

Дзесятага верасня Беларускі выбарчы камітэт выставіў краёвы спісак сваіх кандыдатаў у Сейм. Налічвае ён трыццаць пяць асобаў. Дваццаць восьмага верасня Беларускі выбарчы камітэт і Выбарчы камітэт „Нямецкая меншасць" спалучылі свае краёвыя спіскі. На практыцы азначае гэта, што ў маштабе краіны галасы беларусаў і немцаў будуць лічыцца разам. Гэты саюз дае нам рэальную магчымасць увядзення свайго пасла і з краёвага спіску.

З дваццаць сёмага па дваццаць дзевятае верасня адбылася другая канферэнцыя з цыкла „Белавежа", арганізаваная Беларускім народным фронтам „Адраджэнне" і Беларускім дэмакратычным аб'яднаннем. Мэта яе — зрабіць падрабязны аналіз становішча беларускага этнасу ў Беларускай Рэспубліцы, на Беласточчыне і ў чужыне. На канферэнцыі прысутнічала больш дваццаці пяці ўдзельнікаў з Беларусі, Польшчы, ЗША, Англіі і Нямеччыны.

**Ю. КАЛІНА**

*********************************************

— Па меры магчымасці канструктыўна, да той пары, калі бюро не пачынаюць далічваць надта вялікіх накідаў у пасрэдніцтве з маім бюро. Не вышушу крадзяжу! Як пазітыўны прыклад магу назваць бюро „Libertourist" з Валаміна. Яго шэф, перш як наладзіў са мною супрацоўніцтва, сам прыехаў праверыць, з кім мае дачыненне. Хопіць адзін раз спатыкнуцца, а супрацоўніцтва спыніцца. Наогул лічу, што толькі прыватныя бюро маюць шанц утрымаць турызм. Яны больш дбаюць пра сваіх кліентаў. На жаль, дагэтуляшнія манапалісты, змагаючыся за сваю пазіцыю на рынку, забываюць, з каго жывуць.

*— Што табе перашкаджае ў працы?*

— Хатнія праблемы і нясмеласць.

*— Маеш і рэалізуеш розныя планы. Што новага трымаеш „за пазухай"?*

— У днях ад 25 да 27 кастрычніка г.г. арганізую мерапрыемства для прадстаўнікоў турысцкіх бюро з цэлай Польшчы. Прыедзе каля ста чалавек. Хачу адрэкамендаваць Белавежу як месца наведвання і адпачынку, а пры нагодзе паказаць патэнцыяльным контрагентам, што з'яўляюся нядрэнным партнёрам у інтарэсах.

*— Вясной гэтага года аб'явіла ты конкурс на экалагічнае апавяданне. Які яго лёс?*

— З цэлага краю надыйшлі 74 працы, напісаныя даволі цікава. Падсумаванне конкурсу адбылося ў пачатках кастрычніка г.г. Удзельнічалі ў ім аўтары (шкада, што не ўсе!) конкурсных прац і журналісты з розных часопісаў. Галоўная ўзнагарода — 1 мільён злотых — выпала на долю лекара-ларынголага з Кола, Крыстыны Якубоўскай. З беластоцкіх аўтараў адзначана была праца Анны Гняўкоўскай з Беластока, што дзіўнае

— таксама лекара-ларынголага!

*— Вядзеш таксама кавярню (заўважу — каву ў ёй падаюць сапраўды цудоўную!). Як гэтая дзейнасць адносіцца да турысцкага бюро?*

— Кавярню ўтрымоўваю з неабходнасці, турысты вельмі цэняць яе.

*— Пра што марыш?*

— Пра аўтамабіль, абавязкова белага колеру! Апрача таго пра матэль — прынамсі на еўрапейскім узроўні, і пра вялікі турысцкі комплекс.

*— Дзякуючы за размову, жадаю, каб хаця першая мара хутка здзейснілася.*

Размаўляў
**Пятро Байко**

Фота
**Войцеха Рынажэўскага**



*Тэрэса Валкавыцкая.*

## З ДЗЁННІКАЎ С. ЯНОВІЧА

**06-02-1988 г.**

„Trybuna Ludu", орган ЦК партыі, у сённяшнім святочным нумары публікуе маё інтэрв'ю, якое даў я Халецкай. Гэта важная для мяне падзея: ваўкі, якія кружаць вакол, аднак адбягуцца.

ПРОНаўскае „Odrodzenie" ў пятым нумары ад 30 студзеня змясціла інтэрв'ю Сэрчыка, у якім ён ... усміхаецца да мяне. Усё ценем стаіць тая яго рэцэнзія на „Białoruś, Białoruś" у велікоднай „Gazecie Współcz."

Чацвертага — на аўтарскім вечары ў варшаўскім клубе БГКТ. Жыва і шматлюдна, але і... сумна. Бяруць голас у беларускіх праблемах, самі мала чытаючы, а „Ніву" то і зусім. Плятуць!

Стыпендыйны фонд Любачкі ў ЗША: рэкамендую Сельвясюка і Латышонка. Беларускія эмігранты нарэшце дадумаліся, што сваімі амерыканскімі грашыма могуць лёгка і моцна дапамагчы нашаму тут руху.

Узнікла... Канадыйскае таварыства „Беларусь" (Canadian Bielaruś Society). Хоча арганізаваць яно ў нас конкурс беларусаведы (з доларнымі ўзнагародамі). Society тое — з маладых беластоцкіх эмігрантаў (м.інш. Шаршуновіча з Бярнацкага Маста). Ці рэальнае гэта? Трэба ісці да ўладаў.

**07-02-1988 г.**

Учора — поўная кватэра гарцэраў з Гданска (прыехалі на зімовыя канікулы ў Беласток). Рэзультат маёй мінулагодняй набыўкі ў Гдыні, па запрашэнні таго Стэмпы. Расказвай ім пра Беларусь ... Цэлы вечар.

**08-02-1988 г.**

Гайдук пакалечыў сёння мае тэксты ў „Б.К. на 1988 год": прамову над труною Геніюша нават моцна, выкідаючы сказы пра жыццёвы лёс нябожчыка як метафару наогул беларускага лёсу, — і трохі ў эсэ пра Копу, там, дзе гавару пра нялёгкае існаванне беларуса. Асекурант ён, вясковы палітыкан. Сварка між намі была дзікая! І добра; адвяжацца ён ад мяне. Яго прапановы супрацоўніцтва заўсёды нячыстыя. У яго ўсё нейкая ідыятычная шахматная партыя (выкінуў сваё прозвішча як рэдактара „Б.К.", усё роўна бывцам гэта забяспечыць яго ад папрокаў, чаму „Каляндар" выдаецца пад Вялікдзень, а не пад Каляду).

**12-02-1988 г.**

„Вожык" выдаў „Сказ пра Лысую Гару" (тыраж 30 тыс.). Яшчэ год-два назад за чытанне гэтай ананімнай паэмы можна было дастаць па гарбе ад „родной советской власти".

Праўлю „Місісіпі" Сельвясюка. Слабое! Ён не працуе над моваю.

**13-02-1988 г.**

Чую — меўся прыехаць М. Ткачоў („Замкі Беларусі"). Тыя, што ехалі разам з ім — з Гродзенскага універсітэта — казалі: Ткачова павярнулі ад граніцы назад. Вядома, саветы. Гэта ў іх такі цырк магчымы.

**16-02-1988 г.**

„Archiŭny sšytak (vierasień 1983 — kastryčnik 1987)". Цэлая кніжка, сто шэсцьдзесят старонак! Białastok 1987 — не зусім дакладна... Адзінаццатае выданне BNV (Biełaruskaje Niezaležnaje Vydaviectva), тыражом у восемдзесят экземпляраў.

Адначасна — „Pišmo da siabry" як дзесятае выданне BNV. Гэта мой тэкст.

І — „Dzieviać vieršaŭ" Ларысы Геніюш.

Асабліва „Archiŭny sšytak" робіць уражанне салідпасці і унікальнасці. Брава BNV! Яшчэ не чытаў, але ўжо кінулася ў вочы некалькі русізмаў (vidzie, čysła).

Прыязджаў Яраслаў (быў ужо ў панядзелак падвечар).

Званіў Палескі (Шаршуновіч?) з Канады, ад імя „Беларусі" (спачатку ў „Ніву", дзе сказалі яму мой хатні тэлефон). Калі пачаў я растлумачваць яму, наколькі складаная ў нас справа з арганізацыяй конкурсу беларусаведы за іх грошы, сувязь на лініі... абарвалася.

**( Працяг будзе)**

*Тлумачэнні:*

— Халецкай — Людміла Халецкая-Палоцкая, беластоцкая журналістка.

— ПРОНаўскае — Patriotyczny Ruch Odrodzenia Narodowego, ініцыяваны ўладамі ваеннага становішча ў Польшчы ў васьмідзесятыя гады. Цалкам кантраляваны партыяй.

— Сэрчыка — Уладзіслаў А. Сэрчык, прафесар універсітэта ў Беластоку.

— Стэмпы — Марк Стэмпа, дацэнт гданскай палітэхнікі, кашубскі энтузіяст беларускай культуры.

— „Б.К." — „Беларускі каляндар".

— над труною Геніюша — маецца на ўвазе Юрку Геніюша, пісьменніка „Белавежы", які трагічна загінуў у лістападзе 1985 г. у Беластоку. Сын Ларысы Геніюш.

— „Вожык" — сатырычны часопіс у Менску.

— М. Ткачоў — прафесар гісторыі, дзеяч беларускай апазіцыі (цяпер Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады ў Рэспубліцы Беларусь).

— Беларускае Незалежнае Выдавецтва дзейнічала ў падполлі, у гадах 1980-1988. Польская тайная паліцыя не здолела разграміць гэту арганізацыю, хоць і напала на след яе некалькіх кур'ераў. Самалікві давалася.

— Яраслаў — Яраслаў Яновіч, сын Сакрата.

# НОВАЕ Ў НАРВЕ

( Працяг са стар. 1 )

падаткаў. У ПОМ прывозілі толькі машыны з фабрычнымі гарантыямі. Але, напрыклад, „Урсус" за іх рамонт плаціў з вялікім спазненнем і гэта ў час шалёнай інфляцыі — выходзіла практычна так, што ПОМ рабіў падарункі „Урсусу".

Калі станавілася штораз цяжэй, усё выразней зазначалася пагроза беспрацоўя, людзі пачалі страйкаваць, выкідаць дырэктараў аднаго за другім. Урэшце паставілі свайго, мясцоварa, які даваў 98 % шанцаў на перабудову ПОМа, але ўжо пасля двух тыдняў адмовіўся ад сваe пасады, не даў рады.

Усё валіцца таму, што селянін бедны. З селяніна накручваецца цэлая кан'юнктура.

Рашэнне аб ліквідацыі ПОМа прынялі працаўнікі на агульным сходзе 12 красавіка г.г. (была якраз вялікая пятніца перад праваслаўным Вялікаднем). Пастанавілі паступова прадаваць машыны, варштаты, будынкі, сплачваць даўгі і, па меры магчымасцяў, ствараць новыя месцы працы. Машыны і вытворчая апаратура прадаецца, але пакуль што не відаць ахвотных на будынкі, а трэба ведаць, што плошча, на якой разбудаваўся ПОМ, немалая — 14 гектараў. Неяк не відаць таксама замежных бізнесменаў. Не ствараюцца месцы працы, большасць былых працаўнікоў ПОМа пайшла на „куранёўку".

12 красавіка калектыў запатрабаваў, каб ліквідатарам іхняга прадпрыемства быў Баляслаў Казырскі, які быў найдаўжэй дырэктарам ПОМа, за часоў якога ПОМ найбуйней разбудаваўся".

**Баляслаў Казырскі, ліквідатар ПОМ-а ў Нарве:**

„Я быў дырэктарам ПОМа ад 1964 года да 1982-га. Працавала тады максімальна 220 чалавек. Калі ў красавіку была прынята пастанова аб ліквідацыі прадпрыемства, было тут яшчэ 117 працаўнікоў.

Прычынай краху ПОМа, можна агульна сказаць, быў брак збыту на тавары, якія тут прадукаваліся. Былі шанцы ратаваць прадпрыемства, маглі на яе базе стварыцца суполкі, нават некалькі, але адпаведныя пастановы трэба было прыняць найпазней да студзеня г.г. Калі прадпрыемства даведзена да неплацежаздольнасці, нічога ўжо зрабіць нельга, толькі за крэдыт, у пару не выплачаны, трэба плаціць 140 %.

У чэрвені мы закончылі вытворча-паслуговую дзейнасць. Прадаем машыны, вартасць якіх зніжаецца з кожным днём, бо машыны ёсць на тое, каб нешта прадукаваць. Калі яны не выкарыстоўваюцца — нішчэюць. Што будзе з будынкамі, варштатамі, памяшканнямі пасля зімы — страх і падумаць. А колькі каштуе адно цэнтральнае ацяпленне?

Цяпер тут працуе ўсяго дзесяць асобаў, і тыя не на поўных штатах.



*Войт нараўскай гміны Ян Тапалянскі.*

Вартаўнікі, прыбіральшчыцы, электрыкі. Забяспечваюць нерухомую м аёмасць."

**Ян Тапалянскі:**

„Ліквідацыя нашага ПОМ а не з'яўляецца нічым незвычайным на фоне краіны. Іншыя ПОМы таксама ледзь дыхаюць, а паглядзіце, што робіцца з вялікімі дзяржаўнымі прадпрыемствамі, хаця б той „Урсус". Толькі што ў нас людзі не разумеюць тых працэсаў, якія праходзяць у Польшчы. Яны надзвычай інертныя, чакаюць, што дзяржава ўсё ж такі зробіць ім нейкія месцы працы, што не пакіне іх у бядзе. Таксама звольненыя з ПОМ а людзі не вельмі, каб шукалі новае працы, яны атрымалі зарплату за некалькі месяцаў наперад, цяпер бяруць успамогу для беспрацоўных і чакаюць. Не праяўляюць ніякай ініцыятывы.

Ініцыятыву праявіла гмінная ўправа ў адносінах да школьніцтва. Узялі мы яго пад сваю апеку, хаця ў цяперашняй сітуацыі гэта немалы клопат.

Але найбольш увагі прысвячаем земляробству. Праблемы гаспадароў гэта нашы праблемы. Стараемся ім як мага больш дапамагчы. Падаткі ў нашай гміне адносна нізкія, калі параўнаць з іншымі гмінамі. Людзям, аднак, здаецца, што яны і так высокія, солтысы прыносяць прашэнні ад сялян, каб адтэрмінаваць іхнія падаткі. А грошы ж з падаткаў кожнае вёскі вяртаюцца да яе, на пабудову дарог, водаправодаў, вулічнае асвятленне. Напрыклад, у самой Нарве за першае паўгода людзі заплацілі 30 мільёнаў падатку, а толькі святло каштавала 90 мільёнаў.

Цяжкае становішча ў гміне з прадукцыйнымі спулдзельнямі. Добра працуе ў Макаўцы, яна нават развіваецца — будуе бойню, хоча перааапрацоўваць мяса. Дырэктар там прадпрыемлівы, крыху гандлявалі з Беларуссю, мелі грошы на банкавым рахунку, раслі працэнты, цяпер іх інвестуюць.

Надзеі на будучыню людзі ўскладаюць на прыватную ініцыятыву. У новым пасёлку адкрыецца прыватны гастраном, ГС аўская пякарня таксама ўжо ў прыватных руках і нейк дае даход, хаця старому ўладальніку прыносіла страты. Сінонімам поспеху ў нашай гміне з'яўляецца фірма Сяргея Мартынюка „Пронар". Нядаўна гэтая фірма пабудавала ў Нарве паліўную станцыю, а



*Сімвалы новага ў Нарве.*

# БЕЛАРУСКІ АРГАНІЗАВАНЫ РУХ У ВАРШАВЕ

*У 1987 г., будучы ў навуковай стажыроўцы ў Акадэміі навук тадышняй яшчэ Літоўскай ССР у Вільні і працуючы ў гэтым старадаўнім і прыгожым горадзе разам з Адамам Мальдзісам і Тэрэзай Голуб з Акадэміі навук Беларускай ССР, якраз дзякуючы праф. Адаму Мальдзісу наведалі мы ў неіснуючай ужо лясной хатцы заслужаную дзяячку адраджэнскага і заходнебеларускага руху і беларускую пісьменніцу Зоську Верас. Сустрэча для мяне была настолькі цікавай, што гэтая тады ўжо амаль у 95-гадовым узросце бабулька, аднак, з вельмі добрай памяццю — жывая сведка беларускай гісторыі, асабіста ведала Максіма Багдановіча, Гальяша Леўчыка ды шмат каго з вядомых творцаў беларускай гісторыі і культуры.*

*Бабулька вельмі ажывілася, калі даведалася, што я з Польшчы, з Беласточчыны. Успомніла пра свае наваднорскія „карэнні", адказала на ўсе нашыя пытанні, а на заканчэнне падарыла мне напісаныя ёю 4 ліпеня 1985 г., нідзе не публікаваныя яшчэ тады ўспаміны пра Беларускі варшаўскі гурток (пазней былі яны надрукаваны ў „Ніве").*

*Успаміны гэтыя былі для мяне тады своеасаблівым адкрыццём, таму што я амаль нічога не ведаў пра „беларускую" гісторыю польскай сталіцы. Проста цяжка было ўявіць, што яшчэ недзе ў царскі ці міжваенны перыяд у Варшаве існавала беларускае арганізаванае культурнае жыццё! Быццам бы так, як і цяпер, толькі ў крыху іншай форме! Пасля, гартаючы заходнебеларускую перыёдыку, я сутыкаўся з ўсё новымі, хаця часта даволі лаканічнымі фактамі, пакуль не натрапіў на найбольш змястоўны артыкул пра гэтае жыццё М. Орсы. Артыкул гэты, змешчаны ў I нумары штомесячнага культурна-грамадскага і літаратурнага віленскага часопіса „Беларускі летапіс" (1933-1939) ад 1938 г. — органе Таварыства беларускай школы, з'яўляецца, відаць, найбольш поўнай з вядомых дагэтуль крыніцай ведаў пра беларускую арганізаванасць у польскай сталіцы ў даваенны перыяд, таму, спадзяюся, зацікавіць ён шматлікіх чытачоў.*

**ЮРЫ ТРАЧУК**

Жыццё ўсцяж прыносіць нам на змену весткі сумныя і радасныя; з іх пераплёту і складаецца нашае паваенная беларускае жыццё (пасля I сусветнай вайны, — Ю. Т.). Адным з такіх радасных з'явішчаў ёсць факт, што беларусы ўсюды стараюцца арганізавацца ў свае беларускія арганізацыі.

У гоне за хлебам, за асветай, многа нашых братоў пашло „у прочкі" з роднай зямлі. Расцярушыліся, рассыпаліся яны на цэлым свеце аж за моры, за акіяны.

Але цяпер ужо нашыя браты не губяцца паміж чужымі людзьмі, як людзі без імені, без сваей зямлі, без бацькаўшчыны, а склікаюцца, арганізуюцца, лучацца ў адну сваю сям'ю — у беларускую арганізацыю. Голас супольнай крыві, мовы і долі, пачуццё лучнасці з родным краем, пачуццё патрэбы ўсім і ўсюды рупіцца, думаць аб лепшай будучыні народу — жывае ўжо ўсюды ўсіх беларусаў. Дзе б не былі закінутыя, дзе б далёка ад роднага Краю не спаткаліся — спатыкаюцца заўсёды як людзі адной сям'і, як дзеці адной маткі.

Аб гэтым сведчыць і гісторыя беларускага арганізаванага жыцця ў Варшаве, якую тут падаём.

— — — — — — — — — —

Гісторыя беларускага культурнага руху ў Варшаве недалёкая. Мова тут толькі аб руху арганізаваным, бо незалежна ад гэтага беларусы былі ў Варшаве з даўным даўна. Рух арганізаваны распачаўся ў 1915 годзе, калі аднаўляецца Варшаўскі ўніверсітэт і сярод студэнтаў гэтага ўніверсітэту закладаюцца гурткі студэнтаў беларусаў. Гэтыя гурткі былі мала лічныя і мелі характар больш таварыскі, а з грамадскім жыццём беларусаў не былі ў цяснейшай лучнасці. У сувязі з гэтым і іх праца мела малыя вынікі. Пасля, у 1919 годзе арганізуецца ў Варшаве „Беларускі камітэт", каторы гуртуе навакол сябе пэўную групу свядомых беларусаў, каторыя стараюцца арганізаваць усіх беларусаў у Варшаве, а ў першую чаргу беларускіх работнікаў. „Беларускі камітэт" выпісвае ўсе беларускія часопісы і газэты, а таксама і кніжкі, з якіх арганізуе бібліятэку. Трэба адзначыць, што актыўным сябрам „Беларускага камітэту" быў наш паэт Гальяш Леўчык (Ляяковіч). На жаль, „Беларускі камітэт", не споўніўшы сваіх заданняў з прычын ад яго незалежных, у 1922 годзе развязваецца. Пасля, на некалькі гадоў, беларускі арганізаваны рух у Варшаве замірае. Замірае не таму, што не было тут беларусаў, але замірае з прычыны цяжкіх абставінаў, у якіх ён знаходзіўся. Было гэтак да 1929 г., калі ў Варшаву ўсё больш і больш пачало напływаць свядомай беларускай студэнцкай моладзі, каторая ў 1930 годзе арганізуе Саюз беларускіх студэнтаў у Варшаве. Саюз беларускіх студэнтаў ужо апіраецца на мацнейшых падставах і на шырэйшай платформе працы. Праўда, Саюз беларускіх студэнтаў не знаходзіць шырокага водкліку сярод беларусаў у самой Варшаве, але затое мае большую лучнасць з беларускім сялянствам. У гэты час ніхто нават і не думаў, што ў Варшаве ёсць вялікая маса беларусаў, як работнікаў, так і інтэлігенцыі. З гэтай прычыны праца культурнага характару ў Саюзе беларускіх студэнтаў вялася толькі сярод самых студэнтаў, якіх было асоб каля 30-ці. Але з часам Саюз беларускіх студэнтаў пачынае дзейнасць у шырэйшай форме і навязвае лучнасць з Беларускім студэнцкім саюзам у Вільні і культурнымі беларускімі арганізацыямі. Разумеючы ўсе патрэбы нашага народу, асабліва з боку культурнага — наш Саюз беларускіх студэнтаў пастанавіў у 1932 г. выслаць аднаго лектара, разам з калегамі з Беларускага студэнцкага саюзу ў Вільні, у Беласточчыну, дзе яны за месяц часу прачыталі цыкл папулярных лекцыяў, вялі курсы для дарослых у Беластоку. Навязалася лучнасць з грамадзянствам Беласточчыны, якое было для нас вельмі, а вельмі ўдзячнае. Пасля ўрад „Сяўбы" у Беластоку запрасіў нашага сябру прачытаць лекцыю з беларускай літаратуры. Лекцыя адбылася на агульным сходзе „Сяўбы", дзе грамадзянства Беласточчыны сабралася, каб супольнымі сіламі абгаварыць свае балячкі, як культурныя, так і матэрыяльныя. Наш пачынак працы сярод беларускага народу знайшоў водгук не толькі сярод сяброў Таварыства беларускай школы і „Сяўбы", але сярод усяго грамадзянства Беласточчыны, ад якога наш Саюз беларускіх студэнтаў атрымаў беларускую бібліятэку, за што складаем тут яму шчырую падзяку. Кніжкі з бібліятэкі пашлі ў ход сярод нашых сяброў, пачалося вывучэнне беларускай літаратуры, гісторыі і наогул жыцця беларускага народу. Пасля супольна з сябрамі Беларускага студэнцкага саюзу ў Вільні, сябры нашага

( Працяг на стар. 8 )

сеткай сваіх крамаў пакрыла ўсю аколіцу.

Але і прыватны сектар не дае стопрацэнтнай гарантыі развіцця. Была ў нас узнікла другая суполка „Бэнмар", на базе ВСБВ (Ваяводскі кааператыў вясковага будаўніцтва), але ўжо развязваецца.

Можна сказаць агульна, што сітуацыя ва ўсіх сектарах гаспадаркі ў гміне цяжкая, нават трагічная".

Каб не слухаць адны нараканні, пайшоў я да Сяргея Мартынюка, чалавека, які ўвасабляе сабою поспех у маштабе далёка шырэйшым за гмінны. Хацеў папытацца я пра перспектыву эканамічнага развіцця Нарвы, пра яго погляды на прычыны банкруцтва ПОМа. Спадар Мартынюк пачаставаў мяне гарбатай і сказаў, што яму няма часу валэндацца з прэсай. Журналіст можа напісаць што хоча, потым высылай пісьмы з папраўкамі, ад гэтага няма ніякай карысці, толькі страта часу і энергіі. Так, ён мае свой пункт погляду на ліквідацыю ПОМа, можа нават ім падзяліцца, толькі на мой прыватны ўжытак. А што датычыцца будучыні, патрэбныя нам добрыя гаспадары, энергічныя людзі. А якраз актыўнасці нашаму народу не хапае, не ўмеем мы адзін з другім супрацоўнічаць, засяроджваемся на дробязях, замест бачыць сапраўды важнае.

Фірма „Пронар" будуе ў Нарве салон і краму сельскагаспадарчых машын. А вуліцы Нарвы вечарамі цёмныя, не гаворачы ўжо пра вёскі. Як бы дзве розныя эканамічныя сістэмы, два светы, у адным з якіх дастатак і неабмежаваныя магчымасці, а ў другім — беспрасветная цемень.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

**Фота аўтара**

# НЕ ТОЛЬКІ ГАНДЛЯВАЦЬ

Фірма „Сон-поль" вядомая ў нас перад усім тым, што аплочвае ў Беластоцкім радыё беларускую перадачу „Для школы і для дому". Беластоцкім аддзелам фірмы „Сон-поль" кіруе Пятро Прышчэпка. Ён жа кандыдат у паслы ад Беларускага выбарчага камітэта ў гданьскай выбарчай акрузе.

Да мінулага года, кажа спадар Пятро Прышчэпка, „Сон-поль" быў замежным прадпрыемствам, значыць фірмай, у якой удзел меў замежны капітал. У верасні 1990 года наша фірма пераўтварылася ў суполку з абмежаванай адказнасцю. Фірма зарэгістравана ў Пятркове-Трыбунальскім — там жа знаходзіцца бухгалтэрыя і кадры. Гандлёвае бюро „Сон-поль" знаходзіцца ў Варшаве. Ва ўсёй краіне фірма „Сон-поль" мае дзевятнаццаць гуртавых складаў, свае прадпрыемствы (пераапрацоўка мяса, агародніны, садавіны, малака ды прадукцыя касметыкі і гаспадарчай хіміі) і чатыры салоны прыгажосці. „Сон-поль" мае свае прадстаўніцтвы ў Нямеччыне, Аўстрыі, Чэха-Славакіі і Балгарыі.

Гуртавыя склады „Сон-поль" прапануюць кліенту спажывецкія тавары, касметыку і гаспадарчую хімію краёвай прадукцыі ды імпартаваныя з вядомых заходніх фірмаў. „Сон-поль", дапаўняе Гражына Патрыкас, кіраўнічка спажывецкага аддзела беластоцкага гуртавога склада, мае ў некаторых выпадках выключнасць у галіне імпарту. Выключнасць гэтая, прыкладна, ахоплівае шмат якія гатункі віна, якія толькі мы ва ўсёй краіне імпартуем з Маравіі. Доўгі час была недаступна на нашым рынку чорная кенійская гарбата — у нас шырокі яе выбар. Гарбата гэтая робіць цяпер кар'еру за ўсходняю мяжою — людзі, якія адтуль прыязджаюць, вязуць яе цэлыя сумкі. З нашай краёвай прадукцыі, працягвае спадар Прышчэпка, варта ўспомніць пра касметыку. Некаторыя касметычныя тавары часткова з'яўляюцца лекамі ды маюць усе неабходныя атэсты



*Пятро Прышчэпка.*

Міністэрства здароўя. Фактам, аднак, з'яўляецца тое, што ў цяжкай фінансавай сітуацыі шмат якія бальніцы не ў змозе закупіць нашу касметычна-фармацэўтычную прадукцыю.

Дырэктарам гуртавога склада „Сон-поль" у Беластоку з'яўляецца Пятро Прышчэпка. Імкнемся да таго, кажа ён, каб як мага больш пашыраць выбар тавараў — кліент павінен магчы купіць у нас усё. Да гэтае пары ўсё добра ідзе — хто хоць раз у нас купіў, той у далейшым ужо сталы наш кліент. Прычыняюцца да гэтага ўсякія льготы — абніжаем, прыкладна, на 7 працэнтаў цану тавараў нашай сон-полеўскай прадукцыі. На абшары гуртавога склада наладзілі мы невялікую краму, дзе тавары можна набываць па гуртавых цэнах, арганізуем таксама кірмашы. Бюракратычную працу, як здаецца, звялі мы да мінімума — замест запаўняць кучы папераў, усталявалі ў фірме камп'ютэры. Ужытковая плошча беластоцкага гуртавога склада „Сон-поль" 2,5 тысячы квадратных метраў. У беластоцкім гуртавым складзе працуе агулам 16 асоб — ад дырэктара да шафёра. Падзел на функцыі, кажа П. Прышчэпка, зусім умоўны. Калі прывозяць нам тавар, то ўсе мы ідзем і працуем пры разгрузцы. Маем сваю філію ў Элку — там працуе чатыры асобы.

Спадар Пятро Прышчэпка два гады ўжо ўспамагае акцыю дапамогі дзецям з забруджаных радыяцыяй раёнаў Беларусі. У 1990 годзе, калі пачыналася гэтая акцыя, „Сон-поль" наладзіў продаж сваіх тавараў па гуртавых цэнах, а самім дзецям бясплатна ахвяраваў усялякія ласункі. Спадар Прышчэпка асабіста ўзяў тады на кватэру двое дзяцей і двух апекуноў дзіцячых групаў. Лучнасць з дзецьмі Чарнобыля не абрываецца дагэтуль. Спадар Прышчэпка чым можа, тым і ўспамагае групы дзяцей, якія прыязджаюць у Польшчу на адпачынак, супрацоўнічае ў гэтай справе з Царквою. Акрамя гэтага, Пятро Прышчэпка падтрымлівае фінансава дзіцячыя дамы і дамы апекі над недаразвітымі дзецьмі, фінансуе шмат якія культурныя імпрэзы ў рэгіёне.

Беластоцкі гуртавы склад „Сон-поль" належыць да самых лепшых у краіне, кажа П. Прышчэпка. Я, як ягоны дырэктар, выязджаю апошнім часам вельмі часта ў Беларусь і іншыя рэспублікі з мэтаю адчыніць там нашы прадстаўніцтвы. У днях 30 верасня — 2 кастрычніка наладзіў я выставу нашых тавараў у Гродне. Зацікаўленне было вялікае. Буду рабіць усё, каб ажывіць гаспадарчыя кантакты з усходнімі суседзямі Польшчы, бо ў гэтым будучыня як маёй фірмы, так і ўсяго нашага рэгіёна.

— Гандаль, — сказаў мне на заканчэнне Пятро Прышчэпка, — як самі бачыце, праца ў ім не такая лёгкая. Нельга сядзець у адным месцы, трэба хутка рэагаваць на змены цэнаў, неаднойчы канітуе гэта шмат нерваў, але праца такая вельмі ж цікавая, калі яна камусьці па душы.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

**Фота аўтара**




*Частка тавараў якія прапануе „Сон-поль".*

## НАШЫ КАНДЫДАТЫ

( Працяг са стар. 3 )

### ХТО ПЛАНУЕ...

камісіі заангажавана ўжо звыш 30-ці — перш за ўсё настаўнікі-практыкі. У мой адрас выказваліся нават прэтэнзіі, што пад час стварэння камісіі абмінуў я некаторых відных беларускіх дзеячоў, напрыклад, Яна Зенюка, Аляксандра Баршчэўскага. Мы, зразумела, хочам карыстацца іхнім дасведчаннем, але яны, гэтыя дзеячы, так заняты (Янка Зенюк у той час якраз збіраў кніжкі для польскіх дзяцей на Беларусі), што грэх было б ускладаць на іх новыя абавязкі.

Сустракаўся я з папрокамі, што камісія нічога не робіць, але гавораць гэта тыя, якія не маюць нічога супольнага з асветай. Рэформу школьніцтва не робіць у адзін дзень. У Швецыі, для прыкладу, такую рэформу рыхтавалі 10 год, а ўвялі за год — у нас бывае наадварот. Мы апрацавалі агульны план зменаў да 1998 года. Нам трэба рыхтаваць новыя праграмы навучання, падручнікі, навучальныя дапаможнікі, і не толькі па беларускай мове, але і па гісторыі, геаграфіі, музыцы, пластыцы. Цяпер у Польшчы рыхтуецца рэформа асветнай сістэмы, рыхтуецца такая рэформа і ў Беларусі. Мы не можам нічога зрабіць без уліку вынікаў як аднае, так і другое рэформы. Нам на Беласточчыне трэба шукаць нейкую сярэдзіну паміж польскім і беларускім школьніцтвамі і не забывацца пра мясцовыя варункі.

*— Вы звязаны з Бельскам не толькі як настаўнік, як дырэктар школы, але і як грамадскі дзеяч. З'яўляецеся цяпер радным гарадской рады Бельска, ведаеце патрэбы свайго горада, свайго рэгіёна, але ці гэтага дастаткова, каб кандыдаваць у Сейм? Што б Вы адказалі чалавеку, які спытаў бы Вас пра праграму эканамічнай палітыкі для цэлае Польшчы?*

— Беларускі выбарчы камітэт, у найбольш спрыяючых умовах, можа мець усяго адзін-два мандаты ў польскім парламенце. Мы не маем аніякіх шанцаў не толькі на тое, каб сфармаваць урад, але і на тое, каб стварыць моцную апазіцыйную групу, якая мела б уплыў на палітыку дзяржавы. Мы ніколі не будзем стваральнікамі такой палітыкі. Беларускі пасол патрэбны дзеля таго, каб справы нашай нацыі, нашага рэгіёна былі прысутныя ў найвышэйшым заканадаўчым органе дзяржаўнай улады, каб пра іх памятаў урад і ведала польскае грамадства. Будучы прысутным у Варшаве можна выхадзіць шмат меншых спраў тыпу: пабудова школы, бальніцы, дафінансаванне гміны. Трэба памятаць нам, што беларусы ў Польшчы са сваімі клопатамі гэта на фоне краіны ўсяго крышынка. Таму ніхто не будзе намі сур'ёзна займацца, бо нават у выбарах не можа разлічваць на многа беларускіх галасоў.

*— Але некаторыя ўсё ж такі лічаць, што варта разлічваць і на беларускіх выбаршчыкаў. Вялікай папулярнасцю ў насельніцтва ўсходняй Беласточчыны карыстаецца Ўладзімеж Цімашэвіч. Блок левых сіл, які ён узначальвае, праводзіць выбарчую кампанію па беларускіх вёсках і мястэчках. Будзе ён, відаць, галоўным канкурэнтам Беларускага выбарчага камітэта.*

— Так, на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства і сацыял-дэмакратыя, і БВК хочуць дайсці да таго самага электарату. Я разумею папулярнасць Цімашэвіча ў народзе. Гэта вельмі добры, спрытны палітык. Адзін з нешматлікіх паслоў ад апазіцыі, які адкрыта і трапна крытыкуе ўрад за яго памылкі. Дасканалы аратар і на дадатак прыстойны мужчына — атрымае, пэўна, многа жаночых галасоў. У прэзідэнцкіх выбарах беларускае насельніцтва Беласточчыны галасавала за яго, каб супрацьставіцца „Салідарнасці", якая тут у нас вельмі ж каталіцкая і нацыяналістычна-польская. Потым Цімашэвіч у Сейме раскрыў тайны рапарт МЗСу пра беларусаў Беласточчыны, у чэрвені г.г., пад час візіту папы, паказаўся ў саборы Св. Мікалая. Нашы людзі гавораць, што ён беларус, называюць яго Валодзькам. Я не хачу падкопваць папулярнасць Цімашэвіча, але трэба зразумець адно — гэта палітык буйнага маштабу, яго цікавяць органы цэнтральнай улады. Ён будзе выбраны ў Сейм галасамі палякаў — пад час прэзідэнцкіх выбараў было ў яго каля мільёна выбаршчыкаў — і ці да іх дойдуць якія 40 тыс. беларускіх галасоў, ці не, для яго не мае ніякага значэння. А для нас гэтыя 40 тысяч — справа быць або не быць тут беларускаму руху. Таму ўсё ж такі беларусы, незалежна ад сімпатый, павінны галасаваць за сваіх кандыдатаў.

( Працяг са стар. 3 )

### НЕ КАРЫСТАЦЦА ЧУЖОЙ ЛАСКАЙ

абапіраецца на дасягненні адзінак. Роля дзяржавы павінна абмяжоўвацца да забеспячэння людзям палітычнай і духоўнай свабоды, абароны іхняй прыватнай уласнасці і стварэння магчымасцяў для свабоднай эканамічнай дзейнасці. Такая сістэма не стварае гарантый для дабрабыту ўсяго грамадства, але стварае магчымасць для яго выпрацоўкі — мусяць быць у ёй багатыя і бедныя, тыя, якія маюць і могуць шмат, і тыя, якія, на жаль, мала маюць і нічога не могуць.

*— Пачаткі такога ўжо відаць і ў нас, выклікае яно штораз большае расчараванне.*

— Гэта можна зразумець, але тым болей хачу тут выказаць непапулярны погляд: думаю, што эканамічная палітыка польскага ўрада правільная, незалежна ад некаторых памылак. Памалу вяртаецца сапраўдная вартасць грошам, працы, ініцыятыве.

*— Але зніжаецца агульны ўзровень жыцця. Паяўляецца сапраўдная бяда.*

— Узровень жыцця не зніжаецца, толькі мы цяпер пачынаем усведамляць вельмі балюча, які ён быў увесь час. Сацыялізм гэта была адна вялікая ілюзія і ашуканства. Узровень, які мы мелі раней, не меў трывалых падстаў. Яго ломкасць грамадства адчувала вельмі рэзка пры ўсякіх палітычных хістаннях.

З другога боку, бачу, што многія нараканні неапраўданыя. Ёсць магчымасці добра зарабляць і рэзультаты гэтага відавочныя: добрыя машыны, шыкарна апранутыя людзі, мадэрнае абсталяванне кватэр, падарожжы па свеце. Яшчэ тры гады таму было гэта даступнае якой жменьцы людзей. Праўда, што шмат каму сапраўды трэба жыць сціпла, але гэта непараўнальнае з бядой, якую можна пабачыць хаця б у Амерыцы — самай багатай краіне ў свеце.

*— Можа, і некаторыя нараканні беспадстаўныя, але сітуацыя вёскі сапраўды незайздросная.*

— Сельская гаспадарка, як і ўся эканоміка, знаходзіцца на пераходным этапе. Думаю, што становішча будзе памалу папраўляцца, але толькі тады, калі праграма пераходу да капіталізму будзе рэалізавацца паслядоўна. Кожны адыход ад яе — напрыклад, субсідыі, якія выдаюцца цяпер патрэбнымі — у канцы канцоў працягнае хваробу ўсяе нашае эканомікі. Для субсідыяў патрэбны грошы, якія ад людзей трэба забраць у форме падаткаў. Не трэба дамагацца субсідыяў, а толькі змяншэння падаткаў. З практыкі ведаю, што шмат якія праблемы сельскай гаспадаркі былі б ужо развязаны, каб рукі прыватных прадпрымальнікаў не былі звязаны бюракратычнымі законамі і неапраўданымі падаткамі. Людзі і так выяўляюць немалую ініцыятыву, на вёсках узнікаюць прыватныя крамы, паслугі рознага тыпу — значыць, прадпасылкі лепшага ёсць.

*— Вы кандыдат у Сейм ад Беларускага выбарчага камітэта. Ці ідэалогія капіталізму, якой Вы пакланяецеся, можа памагчы ў вырашэнні нацыянальных пытанняў?*

— Эканамічны лібералізм гэта неабходны варунак пабудовы талерантнага грамадства. Невыпадкова ўсякая таталітарная ўлада, так як і клерыкальныя колы, выступаюць супраць ліберальнай капіталістычнай гаспадаркі, бачачы ў ёй аснову дэмакратыі, палітычнай свабоды і рэлігійнай талерантнасці. Для нас, беларусаў як нацыянальнай меншасці, толькі ліберальны капіталізм дае магчымасць пабудаваць моцную пазіцыю ў польскай дзяржаве, забяспечыць нашы нацыянальныя правы працай нас саміх, а не карыстацца чужой ласкай.

## ПРАБУДЖЭННЕ

( Працяг са стар. 1 )

Цэнтральнай Еўропы выпрацоўвалі цвёрдую таталітарную сістэму ўсяго 5—10 гадоў. Варта звярнуць увагу, што ў Румыніі, дзе Чаучэску выконваў сваю марудную работу праз два пакаленні, падзеі адбываюцца амаль таксама, як у Расіі. Гісторыю посткамуністычнага перыяду ў Румыніі больш чым у іншых краінах можна параўноўваць з нашай. Што датычыць выпадкаў у Польшчы, Чэха-Славакіі ці ў Венгрыі — мелі яны несумненны ўплыў на Расію. Хаця абмяжоўваўся ён інтэлектуальнымі асяроддзямі і пэўнымі цэнтрамі ўлады.

*— Гэта, бадай, даволі істотнае?*

— Так. Але не паўплывала гэта на масы. Яны былі разбуджаны толькі пад уплывам гарбачоўскай перабудовы. Сапраўдных вынікаў гэтага прабуджэння трэба яшчэ пачакаць.

**Гутарыла**
**Марта Бельская**

# БЕЛАРУСКІ АРГАНІЗАВАНЫ РУХ У ВАРШАВЕ

( Працяг са стар. 6 )

саюзу ладзяць лекцыі, рэфераты, прадстаўленні і гурткі музыкальныя ў Наваградчыне, асабліва ў гмінах Нягневіцкай, Карэліцкай Шчарсоўскай і Любчанскай.

У гэтым найбольш працы і энергіі ўлажыў памёршы ў 1933 г. Пятро Пяршукевіч — сябра Беларускага студэнцкага саюзу ў Вільні і найлепшы супрацоўнік сяброў Саюзу беларускіх студэнтаў у Варшаве. Трэба яшчэ дадаць, што ў 1933 г. студэнты супольнымі сіламі пачалі выдаваць беларускую газету ў Варшаве пад назвай „Першы крок" (тут аўтар, мабыць, памыліўся; аднадзёнка „Першы крок" выйшла ў Варшаве не ў 1933 г. а ў ліпені 1935 г.; яе адказным рэдактарам быў Ф. Рацевіч, — Ю. Т.), каторая, на жаль, была сканфіскаваная ўладамі. Але ў той час, калі нашая студэнцкая моладзь супольна з народам пачала шырокую працу на беларускіх землях, — прыходзяць новыя акадэмічныя ўставы. У той час, калі Саюз беларускіх студэнтаў пачаў гуртаваць навакол сябе большую грамаду студэнцкай моладзі, атрымліваем у 1933-34 школьным годзе, ад уладаў універсітэцкіх пісьмо аб рэарганізацыі Саюзу, гэта значыць: зліквідаваць Саюз, як арганізацыю міжшкольную, а залажыць толькі ў адной школе. Гэтага мы не маглі зрабіць, бо наша арганізацыя не гуртавала моладзь толькі адной школы, а ўсіх варшаўскіх, як універсітэт, палітэхніка, Вышэйшая гаспадарчая школа, Галоўная гандлёвая школа, кансерваторыя і інш. Яшчэ трэба памятаць, што новая акадэмічная ўстава дазваляла тварыць арганізацыю на адной школе з азначаным лікам студэнтаў, а іменна найменш 20 асоб, чаго мы не маем на ніводнай вышэйшай школе. Вось, з якіх прычын наш Саюз беларускіх студэнтаў развязаны.

Як бачым, ізноў прышоў час, калі беларусы асталіся без арганізацыі ў Варшаве; але гэты час быў кароткі. Дзякуючы старэйшаму грамадзянству, як праф. Казуры, Ганановічу, Ластаўцы і памёршаму нядаўна адвакату Бычкоўскаму, і студэнцкай моладзі, у 1936 годзе складаецца ўладам Статут Беларускага культурнага таварыства. Характар гэтае арганізацыі быў, як бачым з назвы, культурны. Гэтая арганізацыя ўжо мела апору ў шырокіх масах беларусаў у Варшаве, бо з гэтага часу навязваецца лучнасць студэнтаў з беларускімі інтэлігентамі і работнікамі, якія, шукаючы кавалка хлеба, завандравалі ў Варшаву. Дзейнасць гэтага Таварыства мелася быць на ўсю Рэчпаспалітую, гэта значыць, што Таварыства мела б права адчыняць аддзелы і філіі на беларускіх землях з цэнтраляй у Варшаве. Гэта было якраз у той час, калі культурны рух у Вільні быў у сумным палажэнні і гэтая вестка дайшла да беларусаў у Варшаве. Пасля доўгага часу надышоў адмоўны адказ ад Камісарыяту ўраду, які быў матываваны тым, што такой беларускай арганізацыі не можа дазволіць у Варшаве з прычыны малой колькасці беларусаў у сталіцы. Між іншым, было зазначана, што такую арганізацыю можам залажыць толькі ў гарадах на землях этнаграфічна заселеных беларусамі. У гэтай справе арганізацыйная камісія ўпаважніла сёння памёршага адв. Бычкоўскага злажыць рэкурс да Міністэрства ўнутраных спраў, але загад міністра нічым не розніўся ад загаду камісара ўраду ў Варшаве. Прышлося пісаць другі статут — ужо Асветнага таварыства беларусаў у Варшаве — на правах звычайных і злажыць 23.XII.1937 г. у Старасства. Прачакаўшы азначаны правам час (4-ы тыдні), Асветнае таварыства беларусаў распачало сваю дзейнасць. Дзейнасць нашага Таварыства агранічваецца толькі абшарам Варшавы.

Як бачым з вышэй сказанага, беларускі арганізаваны рух у Варшаве таксама меў многа труднасцяў і перашкод, але закончылася ўсё гэта добра. Цяпер астаецца толькі кінуць закліч да ўсіх беларусаў у Варшаве, каб запісваліся да свае роднае культурнае арганізацыі і падтрымлівалі яе, як з боку дзейнай працы, так і матэрыяльна. Трэба памятаць, што ў арганізацыі і еднасці сіла, што мы, як народ, мусім падняць свой культурны ровень на культурнае ўзвышша іншых цывілізаваных народаў.

**М. ОРСА**

P.S. Загаловак публікацыі згодны з арыгіналам.

**Ю.Т.**

Зорка
Старонка для дзяцей

# КАСТРЫЧНІК

... палае пажарам фарбаў. Клёны ў даспехах з чырвонай медзі. Бярозы стаяць у залатым убранні. Асінкі замерлі, не варухнуць барвовай лістотай. Чуваць ціхае: „кап-кап, кап-кап!"

На ўзлессі, у мокрым алешніку пахне апенькамі. А ў лесе — насцярожаная цішыня. Зрэдку пінькне сініца, з елкі ўпадзе шышка. І зноў — маўклівая цішыня. Як тонкія дужкі, гнуцца сцежкі. Адна з іх — да лужка. Там на працытых дзеразой імхах — чырвоныя пацеркі журавін.

Прыгрэла сонца. Над галавой глыбокая-глыбокая сінь. Пад гэтай бясконцай сінню, куды ні глянь, нябачаная раскоша адценняў, сполахі фарбаў.

Сінь усё набірае сілу. Фарбы ярчэюць. Рунь — зялёная-зялёная. У паветры, празрыстым, як крынічная вада, плывуць незлічоныя белыя шаўкавінкі. Дык гэта ж баб'е лета прыйшло! У небе звіняць шчымліва-тужлівыя галасы. Стомлена пагойдваючыся, над лесам вяслуе запознены жураўліны кліп...

А вечарам асенняя цемра гайдае голле. Між ствалоў старых сосен, уздоўж дарог плывуць халодныя туманы. Восень...

**Янка Целушэцкі**

## Алаіза Пашкевіч (Цётка)

### ГУТАРКА АСОТА З КРАПІВОЙ

— Што ты патыкаўся са мною? — крычала крапіва асоту. — Ці я табе раўня? Нічога ты не робіш; ніхто цябе не знае; ветраеш недзе ў полі сярод аўсоў. Вот я так увіхаюся: таго крапіва пацалуе, хто крапіву згатуе. Кожны крапіву знае, кожны спамінае, па кожным падворку расту я. Глядзь! Ужо да прызбаў дапаўзла.

— Як жа, — адазваўся стары асот, — я расту далей, бачаць мяне людзі радзей, але мусіць мае шпількі дык даўжэй помняць ад крапіўкі.

Якраз на той час падслухала іх гутарку малая Марута і кажа:

— Не хваліцеся: абое вы рабое! Матулька казала, што вас абодвух з карэннем выдзера.



Фота М. Лукшы



*Кот Тамаш прыехаў на Беласточчыну аж з Амерыкі.*

**Фота М. Ваўранюка.**

# ЯК ВЫЖЫЎ БУЛЬБЯНЫ КУСЦІК





( казка)

Цёплым ранкам маладзенькі бульбяны кусцік, які набіраўся моцы ў глухім кутку агарода, заўважыў побач суседа.

— Ты хто? — спытаўся кусцік.

— А хто ты?

— Я бульбяны кусцік. Мяне пасадзілі людзі. А цябе хто пасадзіў?

— Мяне не трэба садзіць, — пыхліва сказаў сусед. — Я расту там, дзе мне падабаецца.

Аднойчы бульбяны кусцік адчуў, што ён паслабеў, цяжэй стала дыхаць. Галава суседа ўзвышалася над ім, а сцябліна, прамая і жорсткая, пакрылася бурымі валаскамі.

— Ты яшчэ не зразумеў, хто я такі? — здзівіўся сусед. — Я цар пустазелля — Асот. Сваімі каранямі я аблытаў твае карані і высмоктваю з іх сокі.

— Навошта табе, Асот, сіла? — спытаў бульбяны кусцік. — Якая карысць з цябе?

— А з цябе?

— Я расту для людзей. З маёй бульбы можна прыгатаваць мноства страў. І суп, і бабку, і клёцкі, і дранікі...

— Пустыя мары, — запэўніў Асот. — Не будзе з тваёй бульбы ніводнай стравы.

— Чаму?

— Я задушу цябе сваімі каранямі, — злосна прасіпеў Асот. — Што мне гэты агарод! Я ўсю зямлю забяру пад свае ўладанні. Разляцяцца па свеце мае верныя слугі — дваццаць тысяч зярнятак. Налета кожнае зярнятка дасць яшчэ дваццаць тысяч зярнятак. І гэтак кожны год, пакуль уся зямля не пакрыецца асотам. Я замару людзей голадам...

Спалохаўся бульбяны кусцік: няўжо няма сілы, здольнай перамагчы цара пустазелля?

Выпадкова заглянула ў агарод цяля. Ласавалася лісцем. Дакранулася мяккай пысай да Асота і, укалоўшыся, адскочыла назад. Пакрыўджанае, яно наступіла капытом на пустазелле — згінь ты тут! — і пабегла на луг.

Здавалася, канец Асоту. Ды ён падняўся, акрыяў, зноў пачаў смактаць зямныя сокі.

Засох бы бульбяны кусцік, каб не сын гаспадара Васілёк. Ён ішоў да вішні, якая расла ў глухім кутку агарода, і ўбачыў расліну з жоўтай кветкай наверсе.

— Якая прыгожая кветачка! — узрадаваўся хлопчык і пацягнуўся да яе рукой. Укалоўшыся, ён заплакаў і пабег у хату.

— Хто цябе пакрыўдзіў, сынок? — спытаў бацька.

— Кветка, якая расце каля вішні, — паскардзіўся Васілёк. — Я хацеў пакаштаваць спелых ягад, я яна мяне ўкусіла.

— Гэта ж асот, першы вораг бульбы! — здагадаўся бацька. — Я не заўважыў яго, разбойніка, калі апрацоўваў агарод... Падай, сынок, мае брэзентавыя рукавіцы, бо надта ж ён, асот, калючы.

На агародзе ўхапіўся бацька абедзвюма рукамі за Асот, тузануў — не паддаецца. Узяліся тады разам з Васільком, пацягнулі з усіх сіл — і прыйшоў Асоту канец.

Адразу лягчэй дыхаць стала бульбяному кусціку. Радуючыся, ён падумаў: „Дарэмна хваліўся Асот сваёй сілай. Самы моцны на зямлі — добры і справядлівы чалавек".

**Віктар Супрунчык,**

**Мікалай Васькоў**

Для самых маленькіх

Авяр'ян Дзеружынскі

## АСЕННІ ДЗЕНЬ

Асенні
Сонечны дзянёк,
Як хораша ў бары!
Хто не гультай,
Не абібок, —
Грыбоў,
Хоць воз бяры.

Пазалаціліся
Дубы,
Рабіны, бы ў агні.
Стаяць
Радочкамі
Грыбы —
Радоўкі ў цішыні.

Зялёнкі вылезлі
Са схоў,
Угрэўся
Чашчавік,
А вунь стаіць —
Ды будзь здароў! —
Таўшчэзны баравік.

Лісічкі
Месяцца ў гуртку,
Ля іх прысеў
Казляк,
Абабак тут
У сасняку,
Чарнявы здаравяк.

Асенні бор,
Які дзянёк,
Якая прыгажосць!
Хто не гультай,
Не абібок, —
Грыбы заўсёды ёсць!



## ПЕВУНОК

Пявун,
Певень-певунок,
Чырванее грабянёк,
Барадой
Пявун трасе,
Куры ўслед за ім усе
Беражком рачным
Ідуць,
Траўку росную
Дзяўбуць.

Певень
Вельмі клапатлівы,
І старанны,
І руплівы.
Куркам знойдзе ён
Жучкоў,
Розных мушак,
Матылькоў.

Ходзіць важна
Певунок,
Чырванее
Грабянёк.





*„Бах!" - халадзільнік з мышкай Пік-Пік ударыў у пліту!*
**Мал. Гжэся Аляксеюка з бельскай „тройкі".**

## *Вершы Віктара Шведа*

### ЯК КОНЕЙ ЗАПРАГАЦЬ У ТРАКТАР?

— Я знаю многа фактаў
Цікавых, — кажа Ніл.—
Хаця б вось: мае трактар
Аж сотню конскіх сіл.

— Хацеў бы, — кажа Лёня, —
Цябе я запытаць:
А як жа гэтых коней
У трактар запрагаць?

### ЯРАСЛАЎ БРУДНЫ СПАЎ

Запытала рана мама:
— Неахайны Яраслаў,
Чаму з бруднымі нагамі
У пасцелі чыстай спаў?

Каб прыкрыць сваю ляноту
Выдумаць такое змог:
— Я тантаў у сне балота,
І не маю чыстых ног.

### ЧАМУ Ў ІЛЬВА ВЯЛІЗАРНАЯ ГАЛАВА?

Дзеці з настаўнікам сваім
У заапарку гарадскім.
Іх незвычайны праваднік
Заўсёды жартаваць прывык.
— Чаму, скажыце, у ільва
Вялізарная галава?
Адказваюць гурмою дзеткі:
— Мо каб не ўцёк ён з гэтай клеткі.

### БУЛЬБА-ПЯКУЧКА

Матуля купіла
Бульбу ў магазіне
І яе зварыла
На вячэру сыну.

Бульбіна Адама
Укусіла ў ручку.
— Ты купіла, мама,
Мне бульбу-пякучку!



## ЖЫВЫ БАРОМЕТР

— Зноў пойдзе дождж, — уздыхнула бабуля.

На другі дзень сапраўды наплылі цёмныя хмары і замжэў дождж.

— Бабуля, як ты здагадалася, што будзе дождж? — пацікавілася Юлька.
— А ў мяне, унучка, ёсць барометр, — усміхнулася бабуля. — Ды не такі, як у дзядзькі Ананаса, а жывы.
— Ці ж бывае жывы барометр? — здзівілася Юлька.

— Бачыш: бярозка за акном. На ёй і жыве барометр. Зараз адчынім фортку і паслухаем, што ён скажа.
— Ці-ці-віць... Ці-ці-віць... — пачулася за акном.
— Гэта ж птушка спявае, — здагадалася Юлька.

— Так, птушка, — пацвердзіла бабуля. — Берасцянка. Лепей за барометр прадказвае надвор'е. Маўчыць — чакай дажджу. Заспявае — сонейка засвеціць.

— Ой, як добра! — узрадавалася Юлька. — Берасцянка спявае. Значыць, будзе сонейка. І мы, бабуля, пойдзем на ягады.

**Фама Рамашка**

*Ці вы ведаеце іншыя прыкметы адносна надвор'я? Запытайце бабулі, дзядулі... А, можа, у каго з вас ёсць яйчэ і прадзед, які ўсё ведае? Чакаю вашых лістаў.*

**„Зорка"**

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

Маленькі Тота разглядвае Венеру Мілоскую, а бацька яму кажа:
— Бачыш, што бывае, калі грызуць пазногці!

* * *

У школе.
— Чаму ты зноў спазніўся, Жан?
— Прабачце, мсье, справа ў тым, што мяне прымусілі мыць шыю і вушы, але я абяцаю вам, што гэтага больш не паўторыцца.

* * *

Настаўнік:
— Якія зубы ў чалавека з'яўляюцца апошнімі?
Боббі:
— Штучныя, сэр.

* * *

— Ты чаму спазніўся ў школу?
— Я хацеў пайсці на рыбалку, але бацька мне не дазволіў.
— Твой бацька паступіў правільна. Ён, напэўна, растлумачыў табе, чаму ты павінен ісці ў школу, а не лавіць рыбу?
— Ён сказаў, што няма чарвякоў і што на дваіх іх не хопіць.

**(В.Б.)**

**Беларускія гульні**

### МЯЦЁЛКА

Гульня праводзіцца на катку або добра ўтаптанай снегавой пляцоўцы. Кожны ўдзельнік павінен мець мяцёлку (пучок галінак) і 3-5 ледзякоў (асколкаў лёду або змёрзлых снежак) дыяметрам 5-7 см.

На лёдзе (снезе) рысуюць круг дыяметрам 7-14 м. У цэнтры яго ставяць адзнаку — мету. На лініі круга, на аднолькавай адлегласці адна ад адной, кожны ігрок капае лунку шырынёй 15-30 см і глыбінёй 5-7 см. Пасля гэтага адзін з ігракоў кладзе лядзяк на мету, а астатнія — за лініяй круга, і ўсе становяцца каля сваіх лунак. Ігрок, лядзяк якога ляжыць на месце, дэкламуе: „Усім разам на гэтым месцы паўвека месці, аднаму замесці!" — і ўдарае мяцёлкай на лёдзе. Ігракі бягуць да меты і сваімі мяцёлкамі імкнуцца замесці лядзяк у сваю лунку. Калі лядзяк замецены, на мету кладзецца другі лядзяк, ігракі вяртаюцца да сваіх лунак, і каманду падае наступны ігрок, які стаіць злева ад папярэдняга. Гульня працягваецца, пакуль не будуць замецены ўсе ледзякі. Пераможцам аб'яўляецца той, хто замяце ў сваю лунку найбольшую колькасць ледзякоў.

У час гульні забараняецца хапаць адзін аднаго рукамі, падстаўляць падножкі.




### РАПУХА ШЭРАЯ

Рапуха шэрая — інакай рапуха звычайная. Жыве ў Еўразіі і Паўночна-Заходняй Афрыцы. На Беларусі звычайны від, больш шматлікі, чым рапуха зялёная. Трапляецца ў вільготных лясах, на палях, агародах, у садах і парках. Рапуха шэрая актыўная на змярканні і ўначы. Карысная. Корміцца насякомымі і іх лічынкамі, смаўжамі, дажджавымі чарвямі і іншымі беспазваночнымі, сярод якіх многа шкоднікаў сельскай і лясной гаспадаркі.

Даўжыня цела рапухі шэрай 6-8 (15) см. Скура бугрыстая, зверху шэрая, карычневая, зрэдку амаль чорная або шэра-аліўкавая, знізу брудна-белая, светла-шэрая або жаўтаватая, аднаколерная або з дробнымі цёмнымі плямкамі. Па баках галавы 2 вялікія скапішчы атрутных залоз. Полавая спеласць — на 3-4 месяцы жыцця, размнажанне ў вадаёмах у красавіку, адразу за жабамі вастрамордай і травяной. Шлюбны голас самцоў падобны на рохканне або глухі брэх сабак. Адкладванне ікры — 6-8 дзён, кладка ў выглядзе слізістых шнуроў даўжыні да 3-5 м, якія завісаюць на воднай раслінпасці. Плоднасць рапухі звычайнай — 1,2-7 тысяч ікрынак. Працягласць лічынкавага перыяду — каля 50 дзён. Памеры сяголеткаў пасля метамарфозы 1,2 — 1,5 см.

Рапуха звычайная зімуе ў норах, ямах, склепах, пад лясным подсцілам і ў іншых месцах. На зімоўку рапуха хаваецца ў канцы верасня-кастрычніку, працягласць зімоўкі — да 140 дзён.




АДГАДАНКА

# ПОГЛЯДЫ

## КУДЫ ІДУЦЬ НАШЫ ПАДАТКІ?

У Сейме Рэчыпаспалітай Польскай 460 паслоў, у Сенаце — 100 сенатараў. Агулам у абедзвюх заканадаўчых палатах 560 чалавек. Кандыдат у паслы ад Беларускага выбарчага камітэта Міраслаў Целушэцкі лічыць, што парламентарыяў гэтых павінна быць напалову менш.

Калі б сапраўды, кажа Міраслаў Целушэцкі, было напалову менш паслоў, дык Сейм быў бы намнога больш эфектыўны ў сваёй працы, а аўтарытэт ухваленых ім заканадаўчых актаў намнога вышэйшы. Сейм і Сенат павінны канструктыўна супрацоўнічаць з прэзідэнтам і ўрадам дзяржавы. У меншай грамадзе хутчэй можна дамовіцца ды знайсці канкрэтныя развязкі большасці самых пільных пытанняў, у прыватнасці, знайсці развязкі праблем, з якімі змагаецца сягоння ў Польшчы гаспадар.

М. Целушэцкі супрацьстаўляецца такім вялікім выдаткам з дзяржаўнага бюджэту на ўтрыманне Сейма і Сената. Узяўшы пад увагу, што сярэдняя заплата пасла ці сенатару — гэта 3 мільёны 700 тысяч злотых у месяц, не ўлічваючы ў гэта ніякіх дадаткаў, атрымліваем больш за 2 мільярды ў месяц. Праз цэлы год на ўтрыманне Сейма і Сената ідзе з дзяржаўнага бюджэту як мінімум 24 мільярды злотых (24.000.000.000 злотых).

За такія сумы, кажа М. Целушэцкі, змаглі б мы, прыкладна, закончыць пабудову бальніцы ў Гайнаўцы ці закончыць шмат якія іншыя так неабходныя грамадству інвестыцыі. Калі прыглядаюся спіскам кандыдатаў у сёлетніх выбарах, нідзе не бачу беспрацоўных — усюды стаяць прозвішчы людзей, якія маюць працу і месца, дзе жыць, агульна кажучы, зажытых людзей. Калі дзяржава знаходзіцца ў цяжкім становішчы, а з усіх гаспадароў і рабочых дояць падаткі, дык, паводле Міраслава Целушэцкага, Сейм і Сенат павінны працаваць грамадска. Я прыхільнік, кажа М. Целушэцкі, добрай заплаты за добрую працу, але калі сітуацыя дзяржавы сапраўды цяжкая, дык трэба рабіць ашчаднасці ўсюды, дзе гэта магчымае. Я таксама супраць таго, каб Сейм сам сабе вызначаў заплату. Калі дзяржава будзе ў лепшай сітуацыі, то калі ласка. Лічу, што палітык павінен фінансаваць сябе сам. Калі б паслы і сенатары працавалі грамадска, дык спіскі кандыдатаў у выбарах былі б напалову каротшыя.

Заплатай для палітыка з'яўляецца сама магчымасць здзяйснення яго палітычных імкненняў і ідэалаў.

Запісаў

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

## БЕЛАРУСІЯНА НА КАРЦЕ БЕЛАСТОКА



**Вуліца Палеская** — *адна з даўжэйшых вуліц Беластока. Бяжыць яна на поўнач ад цэнтра горада, паралельна з чыгункай Беласток — Зубкі-Беластоцкія. Пры гэтай вуліцы знаходзіцца рамонтная база легкавых аўтамабіляў і магазін запасных частак.*

Тэкст і фота **Я. Целушэцкага**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

**Астроне!**

Сніцца мне, што пайшла я ў лес па грыбы. Са мною была мая супрацоўніца. Мы хадзілі па лесе, але я нічога не знайшла. Ніводнага грыбчыка. Мая знаёмая трошкі назбірала. Можа іх было 1/4 кошыка. У ім былі розныя грыбы, а найбольш запамятала я зялёнкі — вялікія, здаровыя і з пясочкам наверсе. Хаця гэтыя грыбы не былі мае, я іх паказвала камусьці, як бы цешачыся, што яны такія здаровыя.

А ў другім сне прыснілася мне, быццам атрымала я пасылку ад сяброўкі. Гэта быў шаль, які яна сама мне звязала. Шаль яснага колеру — нібы шэры, нібы бежавы, але якісь дзіўны. Адзін канец шырокі, а другі раздвоены. Я падумала, што сяброўка, як пачала яго рабіць, прыйшла да вываду, што завузкі ён і дарабіла другую частку, а ад сярэдзіны ўжо рабіла шырокі. Што можа гэта абазначаць?

**Валя**

Сніца, што мы са сваім братам (ён не жыве) ідзем лавіць рыбу. Ён з вудачкай, а я прычаніла шнурок да кія, да гэтага шнурка прывязала рабака. Прыйшлі мы на ставы. Іх тры. У першым вада чыстая, але рыба не ловіцца. Брат пайшоў кудысьці, а я іду да тых ставаў. Другі зарослы, а трэці яшчэ больш, амаль не відаць вады. Я падумала, што каб і была рыба, дык я яе той сваёй „вудачкай" не злавіла б.

**Марыя**

Валя! Твой першы сон абазначае, што жыццё тваё, на жаль, вольнае ад кахання. Гэта ж падумаць, хадзіць па лесе і не знайсці ніводнага грыбчыка! Прыемна, што цешышся поспехам тваёй супрацоўніцы, якая назбірала, хаця няшмат, то ўсё ж здаровых грыбоў. Пэўна, будзеш радавацца яе поспехам у каханні.

Што датычыцца другога сну, дык, лічу, што можаш спадзявацца нейкага прыбытку.

А ты, Марыя, будзеш мець нейкі цяжкі, але выгадны занятак, на які вельмі разлічваеш. Аднак жа, на жаль, ніякай карысці ён табе не прынясе. Ты лавіла рыбу, але не злавіла яе, а нават і не бачыла.

**АСТРОН**




Мілае Сэрцайка! Мая справа нештадзённая. Ёсць у мяне хлопец. Нібы кахае мяне, але вось я даведалася, што любіць ён скакаць „на бокі". Адна сяброўка сказала, што бачыла яго з дзяўчынай у кіно (?!), другая — што з іншай быў у парку. Я пачала падазраваць свайго хлопца, што ён здраджвае мне. І як жа, неўзабаве натрапілася аказія, каб пераканацца канчаткова.

У мяне ёсць на рабоце адзін супрацоўнік. Прыйшоў ён калісь да мяне і кажа: „Скажы свайму кахасю, каб на чужых дзевак не лез, бо я яму морду наб'ю!" Я анямела. У гэтага хлопца была вельмі нецікавая дзяўчына, і я ніколі не падазравала, што мой хлопец мог бы пакваціцца на яе. Сваю патэнцыяльную суперніцу я заўсёды ўяўляла прыгожай і зграбнай, як мадэлька. Ніколі б не падумала, што мой хлопец пойдзе ў пасцель з абы-чым. А вось пайшоў жа.

Справа ў тым, што мой супрацоўнік падпільнаваў калісь, як яго дзяўчына пайшла з маім хлопцам на патанцоўку. Мела сустрэцца з ім, але выкруцілася, што хворая. Ён за ёю сачыў. Прастаяў, бедны, гадзіны чатыры пад клубам, пакуль яны не вытанцаваліся і нарэшце выйшлі. Узялі таксі, а ён — за імі ўзяў другое. Вядома, пасхалі да яе дахаты, яна ж жыве адна, мае асобную кватэру. Ну, і зноў прастаяў там пад хатай дзве гадзіны — не хацеў перашкаджаць, было ж ужо па поўначы! І... замест таго, каб увайсці да сваёй дзяўчыны і прынамсі паўстрымаць яе ад здрады ці адлупіць неяк, ён прыйшоў сварыцца да мяне, бо гэта мой хлопец з ёю нерасплаўся, дык мая ў гэтым віна.

Спачатку мне не хацелася ва ўсё гэта верыць. Мой хлопец пераконваў мяне, што горача мяне кахае, а тое, што пра яго расказваюць мае сяброўкі, гэта плёткі: ён мае толькі звычайных сяброўак, а дзяўчына яго — толькі я! А тут факт яго здрады трапіў мне проста ў рукі. І нешта ў сэрцы кальнула, і вырашыла я пераканацца сама.

Дагаварылася з гэтым маім сябрам па рабоце схадзіць „у госці" да майго хлопца. Ён жыве з бацькамі, але я магла ў любы момант прыйсці да яго. Калі мы з калегам сталі на парозе знаёмай кватэры, мой хлопец зрабіўся белы, як палатно. Больш мне нічога не трэба было тлумачыць. Хлопец мой здагадаўся, чаго мы прыйшлі.

Але мы ўвайшлі ў хату, а я проста запыталася, як было ў ложачку з дзяўчынай майго сябра.

Хлопец мой яшчэ больш пабляднеў, заікнуўся аб нечым, а пасля змоўк і ўжо нічога не гаварыў. І так усё было ясна. З усяго размаху я стукнула яго па мордзе, і мы з калегам выйшлі. Не хацелі мы ні яго чаю, ні кавы.

Не магу цяпер глядзець на яго, а сэрца шчыміць. Але як падумаю яшчэ, што зрабіў гэта з абы-кім, дык робіцца моташна. Не ведаю, ці варта ўжо верыць такому чалавеку.

**Лілька**

Лілька! Кожнай дзяўчыне здаецца, што яе суперніца — гэта абы-што. Заўсёды знойдзе яна нейкі недахоп у яе, каб даказаць, што яе хлопец здурнеў, памяняўшы „такую дзяўчыну" на „абы-што". Калі не касавокая, дык у яе ўяўленні будзе мець крывыя ногі ці рэдкія валасы. Калі ж у сэнсе фізічным да яе прычапіцца нельга, дык будзе гаварыць, што замест мозгу ў яе — „мазжачок". Рэдка калі здраджаная дзяўчына пагодзіцца з фактам, што ў нечым усё ж яе суперніца была лепшая.

Твой хлопец, Ліля, здаецца, не спяшаецца цябе памяняць на іншую, бо не інфармуе цябе пра свае флірты, выразна відаць, што хацеў бы затрымацца пры табе. І таму яму можа быць нават „абы-што", абы толькі было нешта новае. Любіць ён, відаць, гэты „спорт".

Лепш ты, Ліля, памяняй яго!

**СЭРЦАЙКА**




### ЗАПЯКАНКА З РЫСУ, МЯСА І ПОРАЎ

На 25—30 дэкаў змеленай свініны або ялавічыны (у тым ліку 5 дэкаў саланіны) трэба ўзяць 15 дэкаў цыбулі, 1 кг пораў, 1 1/4 шклянкі рысу, 2 лыжкі тлушчу, 1 1/2 шклянкі малака, 1 шклянку смятаны, 2 зубкі часнаку, прыправу „кары" або вострую папрыку, перац, соль, 4 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі, 1 лыжку цертай булкі, 3 лыжкі вострага сцертага жоўтага сыру, 1 лыжку алею.

Цыбулю абабраць, дробненька нарэзаць, пасаліць, падаграваць на малым агні, памешваючы. Пасля палажыць лыжку тлушчу, крыху падсмажыць, дадаць змеленае мяса і пасечаны часнок, перамяшаць і крыху падсмажыць, заправіць па смаку соллю і перцам.

Рыс перабраць і памыць. Усыпаць у гарачае малако (у якое даліваем шклянку вады і кладзем лыжку тлушчу і соль). Зварыць сыпкі рыс.

Поры ачысціць, абрэзаць зялёныя лісткі і выкарыстаць іх для супу. Ачышчаныя поры добра памыць, правяраючы, ці паміж лісцьмі не засталася зямля. Нарэзаць упоперак на кавалкі шырынёю каля 1/2 см, укінуць у пасолены кіпецень. Варыць каля 5 мінут, адцадзіць, перамяшаць з вараным рысам, заправіць „кары" і соллю па смаку.

Вогнетрывалы посуд змазаць алеем, пасыпаць цертай булкай. На дне посуду палажыць пласт рысу. На рыс палажыць мяса, пасыпаць пасечанай пятрушкай, накрыць рэштай рысу, выраўнаць паверхню, заліць смятанай. Паверхню запяканкі пасыпаць сцертым на тарцы сырам. Уставіць у гарачую духоўку, запячы.

Гатовую запяканку выкладзіць на талерку. Падаюць яе з тамантным соусам і з салатай.

### МЯСНЫ ПУДЫНГ

На 20—30 дэкаў варанай свініны, ялавічыны ці кроліка ўзяць 4 яйкі, 3 булачкі, 1 шклянку малака, 2 лыжкі масла ці маргарыну, 4—5 лыжак пасечанай зялёнай пятрушкі, 4 лыжкі сцертай на тарцы булкі, 2 лыжкі смятаны, соль, перац, 1 лыжку алею.

Варанае мяса нарэзаць тоненькімі палосачкамі. Яйкі памыць, аддзяліць жаўткі. Булкі намачыць у малацэ, крыху выціснуць, а тады працерці праз сіта. Масла ці маргарын расціраць, дадаючы па адным жаўтку, смятану і працертую булку. Сцертую масу размяшаць з пасечанай пятрушкай і нарэзаным мясам, дадаць солі і перцу. З бялкоў збіць пену. Калі яна ўжо будзе цвёрдая, дадаць 1/4 лыжачкі солі і збіваць яшчэ хвіліну.

Пушыстую пену перамяшаць з падрыхтаванай масай, дадаючы пакрысе прасеяную цертую булку. Падрыхтаванай стравай напоўніць форму да 3/4 яе вышыні (перад гэтым спецыяльную форму для пудынгаў змазаць алеем і пасыпаць цертай булкай). Форму шчыльна зачыніць і ўставіць у вялікую каструлю з кіпячай вадой. Варыць пад пакрыўкай на малым агні 60—80 мінут.

Гатовы пудынг выкладзіць на талерку. Падаваць з цыбульным ці грыбным соусам і салатай.

**ГАСПАДЫНЯ**

# ІМПАРТНАЯ САЛАТА

**(Балгарскія ўсмешкі)**

Жонка падае каву мужу, які ўважліва чытае газету. Пасля першага глытка муж раздражнёна кажа:
— Ты ж добра ведаеш, што я п'ю каву без цукру!
— Ведаю, але я хацела пачуць твой голас.

*

Пакупнік да прадаўца:
— Я заплаціў за шэсць апельсінаў, а вы паклалі толькі пяць.
— Шосты быў такі гнілы, што вы самі яго выкінулі б.

*

Наведвальнік, паспытаўшы каву, кажа афіцыянту:
— Што вы мне прынеслі? Каву ці памыі?
— Не можаце зразумець?
— Не магу.
— Тады якое гэта мае значэнне?

*

У габраўца забалеў зуб. Ён вырашыў яго вырваць. Завітаўшы да лекара ён спярша вырашыў спытаць колькі гэта будзе каштаваць.
— Вырваць зуб — пяць леваў. За электрычнасць, бо цяпер вечар, адзін леў, разам — шэсць леваў, — растлумачыў лекар.
— Добра! — сказаў габравец. — У такім выпадку я прыйду заўтра днём.

*

Фабрыкант з Габрава падарожнічаў па Індыі. У адным храме яго ўвагу прыцягнула шасцірукая багіня Чандра.
— Вось такіх бы мне мець работніц! — выгукнуў фабрыкант.

*

Сустракаюцца два сябры-габраўцы ў Сафіі:
— Прывітанне, што ты тут робіш?
— У мяне вясельнае падарожжа.
— А дзе ж жонка?
— Засталася ў Габраве, яна была ў Сафіі некалькі гадоў таму.

*

Габравец зайшоў у гастраном купіць каўбасы. Прадавец разам з каўбасой падаў баначку гарчыцы.
— Я не хачу гарчыцу, — запярэчыў габравец.
— Гарчыца бясплатная да каўбасы!
— Ну тады дайце мне толькі гарчыцу.

*

— Ты куды спяшаешся? — пытаецца ў габраўца знаёмы.
— На пошту, пакуль не зачынілі.
— Адпраўляеш пісьмо?
— Не, трэба набраць чарніла ў аўтаручку.

*Пераклаў з балгарскай мовы*

*Валерый Бабей*

# НІЎКА




*Малюнак А. Шавеля („Вожык").*

**ПАЧАСТУНКІ**

— О, з чарнобыльскае зоны
Прыкацілі агуркі!
Ля прылаўка крык шалёны,
У бойку лезуць мужыкі.
— Па чарзе!
— Куды ты прэшся!
— Ды адважце ж вы, нарэшце,
Крыху цэзія для цешчы!
—Расхапілі чэрці стронцый!
З кілаграмчык хоць бы жонцы...
...Ля прылаўка гвалт, праклёны,
Ажно б'юцца мужыкі.
Там з чарнобыльскае зоны
Прадавалі агуркі.

МІКОЛА КАРАЛЁЎ
*(„Чырвоная змена")*

**ГУТАРКА**

Гутарылі: Талент, Працавітасць і Нахабства.

Талент заявіў:
— Кожнае намаганне, за якім я не стаю, прыгаворана на паражэнне.

Працавітасць паціснула плячамі.

— Гаворыш так, як бы ты не ведаў, што толькі я з'яўляюся надзейнай крыніцай поспеху!

Нахабства маўчала і нават выразам свайго твару не праявіла сваіх думак.

Але яно сваё ведала.

# НОВЫ АНЕКДОТ

— Вы чулі, Беларусь стала суверэннай дзяржавай!
— А хто вам гэта сказаў?
— Дэпутаты на сесіі.
— А хто ім гэта сказаў?
— Не ведаю. З Масквы, мабыць.
— І як, у дзяржаве было аб'яўлена нацыянальнае свята з нагоды набыцця дзяржаўнасці?
— Не.
— І ўсе прадпрыемствы сталі працаваць для дабрабыту Беларускай дзяржавы?
— Не.
— І дзяржава сама распараджаецца сваёй бульбай?

— Не.
— І ў дзяржавы ёсць свае нацыянальныя сімвалы?
— Не.
— І ў дзяржавы ёсць свае грошы?
— Не.
— І ў дзяржавы ёсць свае войска?
— Не.
— І ў дзяржавы ёсць свае межы?
— Не.
— І парламент дзяржавы пачаў працаваць на мове дзяржавы?
— Не.
— І сродкі масавай інфармацыі загаварылі на мове дзяржавы?
— Не.
— І гэтая дзяржава жадае, каб нехта яе прызнаў за дзяржаву?
— Не.
— Дык што вы мне паведаміць хацелі?
— Да вот анекдот новый услышал я на днях: Северо-Западный край отделяться надумал!

**Гаворку ў тралейбусе выпадкова пачуў і запісаў**

**Максім ГІЛЕВІЧ**
*(„Добры вечар")*

# КАСЯК НА „Б"




**Управа:** 1) мастацкі стыль у архітэктуры, 2) сын бацькі, 3) установа для фінансавых і гандлёвых здзелак, 5) можа быць жылы, адміністрацыйны або гаспадарчы, 7) найхутчэй гэта ты сам ім з'яўляешся, 10) цуд-жанчына, 12) порт на рацэ Шат-эль-Араб, 13) валасы, якія растуць ніжэй скроняў.

**Улева:** 1) хлебны выраб спечаны на скавародзе, 2) кофтачка, 4) пасля Хрушчова, а перад Андропавым, 6) пасля ўдалага гандлю, 8) белы грыб, 9) месца вялікага гандлю, 11) горад у Грузіі, 14) вузкі, гаманлівы паток вады.

**„ядань"**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з н-ра 36:** колас, фінал, баран, камар, сорам, пажар, Парыж, пазур, паказ, паляк, палец, тытул, пункт, каран, цяжар, вейка, Дунай, склон, казёл, заказ.

***********************************************************************

Ніва

„Niwa", ul.Suraska 1, 15-950 Białystok skr. pocz. 149, tel. 210-33.
Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.
Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. *Рэдагуе калектыў: Мікола Ваўранюк, Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).*

I.Prenumerata pocztowa
1.Termin wpłat na prenumeratę pocztową na I kwartał 1992 r. upływa 20 listopada 1991 r.
2.Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 19.500 zł + 6.500 zł za doręczenie.
3.Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
II.Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę.Cena 1 egz.z wysyłką wynosi 2.500 zł.

Cena prenumeraty miesięcznej:
- październik - 10.000 zł.
- listopad - 10. 000 zł.
- grudzień - 12. 500 zł
Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.